*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 1 красавіка 1988 г. № 14 (3424) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## УНУМАРЫ:



ЛЮДЗІ РОДНАГА КРАЮ

IV Усесаюзны з'езд калгаснікаў, які стаў важнай падзеяй у жыцці нашай краіны, пацвердзіў курс на развіццё гаспадарчай самастойнасці калгасаў, на поўнае раскрыццё ініцыятывы і творчасці працаўнікоў сяла, майстроў сваёй справы.

На здымку: перадавая даярка племзавода «Крынкі» Лёзненскага раёна Віцебскай вобласці Людміла Зайцава — пераможца многіх рэспубліканскіх і ўсесаюзных спаборніцтваў сярод аператараў машыннага даення.

Фота А. КЛЕШЧУКА.

# Служыць агульнаму дабру...

## ДЗЕНЬ З САКРАТАРОМ ГАРКОМА

ПРЫПАМІНАЮ, як мы ў свой час пазнаёміліся. Недзе ў семдзесят сёмым ці, можа, семдзесят восьмым годзе, г. зн. дзесяць гадоў назад, да мяне ў Саюз пісьменнікаў зайшоў высокі, прыгожы чалавек і прадставіўся: «Ломаць, сакратар Уздзенскага райкома партыі». Адразу ж, без лішніх слоў сказаў пра справу, якая прывяла яго да пісьменнікаў: «Плануем адкрыць музей ва Уздзе, ідзе ўжо будаўніцтва будынка, і трэба параіцца, трэба дапамога ў зборы экспанатаў...» Знаёмства было адначасова і прыемным і дзелавым. Потым Зянон Кузьміч заходзіў да мяне па той жа справе яшчэ і яшчэ раз. Захоплены новай для яго ідэяй, расказваў, дзяліўся навінамі, пытаўся, запісваў тэлефоны і адрасы літаратараў—выхадцаў з Уздзеншчыны. Помню добра тое ўражанне, якое пакідаў кожны візіт сакратара райкома, яго энергія, захопленасць, аддадзенасць справе... Затым мы разам займаліся святкаваннем на Уздзеншчыне юбілею Кандрата Крапівы, праводзілі ў райцэнтры літаратурны вечар і сустрэчу ў вёсцы Нізок у сувязі з сямідзесяціпяцігоддзем Паўлюка Труса. Пазней убачыліся на нейкім агульнарэспубліканскім сходзе, зноў гаварылі пра музей, пра хату П. Труса, разам напісалі і паслалі ў прэзідыум запіску...

Потым Зянон Кузьміч знік з майго далягляду. І толькі праз некалькі год даведваюся ад нашага агульнага знаёмага, партыйнага работніка, як складвалася далей біяграфія З. К. Ломаця: вучыўся... працаваў першым сакратаром Клецкага райкома КПБ... У 1986 годзе выбраны першым сакратаром Слуцкага гарадскога камітэта партыі... Толькі нядаўна, здаецца, перабраўся з інтэрната ў кватэру... Радуюся, што З. Ломаць знайшоўся і знайшоўся іменна ў такой якасці. «Гэта добра,—гавару свайму знаёмаму.—Такія людзі, як Ломаць, патрэбны перабудове». Тады ж падумаў і аб тым, каб прадоўжыць наша знаёмства. Думка гэтая не-не ды і давала знаць. Чакаў падыходзячы момант...

І вось у сярэдзіне сакавіка званю ў Слуцк, *прашу першага сакратара гаркома*. Зянон Кузьміч—добры знак—на сваім рабочым месцы. Вітаемся, кажу, што даўно не бачыліся, а шмат змянілася, шмат падзей адбылося з таго часу, і добра было б сустрэцца, даведацца, як жыве і працуе сёння, ва ўмовах перабудовы, першы сакратар гаркома. Зянон Кузьміч *запрашае* прыязджаць, прызначае дзень, толькі робіць адну агаворку: лепш будзе, калі мы паездзім па раёне і вы пагутарыце з людзьмі. Нотка, што прагучала ў агаворцы-прапанове, здалася нешта вельмі ўжо знаёмай мне па нашых ранейшых сустрэчах з Ломацем. Так, гэта, падумаў я, падобна на яго: спачатку справа, а потым ужо сам я. (Калі пісаліся гэтыя нататкі, прачытаў у «Правде» артыкул аб выніках атэстацыі партыйнага апарату ў Ленінградзе і звярнуў увагу на словы: «Чым вышэй работнік сам сябе ацэньваў, тым менш аказвалася яго аддача, ніжэйшым прафесійны ўзровень»).

Як і дамаўляліся, а дзесятай гадзіне я ўжо быў у кабінеце першага сакратара гаркома (шосты паверх новага адміністрацыйнага будынка, аднаго з узведзеных за апошні час слуцкіх «небаскробаў»). Ледзьве паспелі павітацца, абмяняцца традыцыйнымі для такога выпадку пытаннямі (калі бачыліся ў апошні раз? Што з уздзенскім музеем?..), як Зянон Кузьміч, падвёўшы да акна, паказвае новы Дом культуры, загаворвае з непакоем аб праблеме «ліўнеўкі», г. зн. сцёку вады на вуліцах горада... «Пазнаю Зянона Кузьміча Ломаця».—усміхаюся сабе ў думках. Неяк натуральна, само сабой атрымоўваецца і адказ на адно з пытанняў, з якімі я ехаў у Слуцк,—на пытанне аб тым, як працуецца сёння партыйнаму кіраўніку, што новага ў рабоце гаркома ў параўнанні з нядаўнім мінулым.

— *І цяжэй, і цікавей аднача*сова стала працаваць, — адказвае Зянон Кузьміч, вяртаючыся за стол і разглядаючы свежую пошту. — Стала менш папер зверху і, значыць, больш права для ініцыятывы. На сёння ўсяго адна папера. Рэзка скарацілася колькасць ананімак. Праўда, яшчэ вось пераслалі на рэагаванне пісьмо з рэдакцыі. Павінен сказаць, не зусім па адрасу. Аўтар скардзіцца на канкрэтнае парушэнне, звязанае з продажам каровы, і пісьмо трэба было пасылаць у райвыканком. Але па інерцыі ўсё шлюць сюды, у гарком партыі.

Размова, па сутнасці, сама падышла да яшчэ аднаго пытання, якое мяне цікавіла і вырашэнне якога, як было сказана на лютаўскім Пленуме ЦК, будзе на парадку дня маючай хутка адбыцца партыйнай канферэнцыі, — аб размежаванні функцый партыйных і дзяржаўных органаў, больш дакладным вызначэнні метадаў ідэйнага, палітычнага — у адрозненне ад адміністрацыйна-каманднага — кіраўніцтва. Перабіў тэлефонны званок. На прыём тэрмінова прасілася *група палітработнікаў адміні*страцыйных органаў — з Масквы, Мінска, вобласці. Зянон Кузьміч просіць прабачэння, але я кажу яму, што гэта, можа, да лепшага, што мне таксама цікава паслухаць, паглядзець сакратара гаркома ў рабоце, у яго штодзённай дзейнасці. Так яно і было. На працягу гутаркі закраналіся самыя розныя пытанні — ад змагання з алкагалізмам да *першых крокаў* кааператыўных аб'яднанняў, якія ўзнікаюць у горадзе і раёне, — і ў выніку даволі выразна акрэсліваліся лінія гаркома ў дачыненні да гэтай «злобы дня», пазіцыя яго першага сакратара, па тым ці іншым пытанні, у тым ліку і па адзначаным вышэй. Калі ў пераказе, тэзісна, то пазіцыя гэтая выкладалася так:

— У барацьбе з негатыўнымі з'явамі пазбягаць фармалізму, фарсіравання, тым больш дзеля рапарту, боязі рэальнай, а не палепшанай статыстыкі;

— *«прамыя лініі», «свабод*ныя мікрафоны» павінны быць не гульнёй у дэмакратыю, а яе сапраўднымі, рэальнымі праявамі, сродкам выяўлення і актывізацыі грамадскай думкі;

— дасведчанасць, кампетэнтнасць, здольнасць прымаць рашэнні... Сёння гэта — неабходная якасць для кіраўнікоў усіх звенняў. У прыватнасці, у іх адносінах да кааператываў, самадзейных аб'яднанняў, розных ініцыятыў знізу;

— у гарком усё яшчэ ідуць, па старой завядзёнцы, з пытаннямі, якія могуць вырашацца самімі савецкімі кіраўнікамі і гаспадарнікамі пры адпаведнай ініцыятыве з іх боку...

Пасля гутаркі Зянон Кузьміч *знаёміць мяне з раскладам* на дзень, з маршрутам паездкі: гарадскі спартыўны комплекс, сыраробны камбінат, саўгас «Белічы», калгасы «Ленінскі шлях» і імя Кірава... Перад тым, як пакінуць кабінет, я загаварыў пра «Слуцкія сустрэчы», надрукаваныя ў «Звяздзе». І, відаць, у сувязі з гэтым Зянон Кузьміч раптам спытаўся ў мяне:

— Што такое — падзёншчына?

— Падзёншчына? — перапытаў я. Хацеў нешта сказаць паводле слоўнікаў, але зразумеў, што сакратара цікавіць не літаральны сэнс паняцця.— Раю пачытаць вам «Анатомію падзёншчыны» Івана Васільева. Ён здорава «анатаміруе» гэту з'яву, яе *прычыны* і вынікі, лічыць, што падзёншчына як з'ява — гэта своеасаблівая пазіцыя негаспадара.

Ломаць запісаў назву твора і нумар часопіса, пазваніў тут жа ў бібліятэку, зрабіў заказ, і мы паехалі...

Не, Зянон Кузьміч не з тых, хто лезе ў кішэнь па слова, ці хто не рашаецца выказваць свае думкі і адносіны. Ён сам прызнаецца, што не ўмее асцярожнічаць, адкрыта выступае на розных сходах і пленумах. На маё пытанне, што такое перабудова, з яго пункту гледжання, ён коратка зазначае: «Гэта *перш* за ўсё — магчымасць гаварыць праўду». І тым не менш я пераконваўся ў час нашай паездкі па раёне, што Ломацю лягчэй паказваць, чым выказвацца, чым расказваць. Без лішніх слоў (але, натуральна, не без прытоенай гордасці) ён паказваў разам з гаспадарамі залы спар*тыўнага* комплексу, цэх камбіната, новыя домікі-катэджы і вялікія дамы культуры, высокапрадуктыўную ферму і ўтульны, усім забяспечаны калгасны дзіцячы садок... Паказваў, што зроблена, што робіцца, што будзе рабіцца заўтра, і я бачыў, што перабудова для яго мае практычны, жыццёвы сэнс, асацыіруецца з паняццем будаўніцтва. Слова тут, бачыў я, неаддзельна ад справы, ад дзеяння, ад рашэння.

Адэкватнасць, дзелавая напоўненасць і жыццёвая мудрасць слова... Яны прыемна ўражвалі пры сустрэчы са старшынёй калгаса «Ленінскі шлях» Мікалаем Ільічом Васілевічам, які збіраўся якраз на Чацвёрты з'езд калгаснікаў (яго абралі на з'ездзе ў склад Саюзнага Савета калгасаў), у час нашай няспешнай гутаркі са старэйшынай старшынёўскага корпуса раёна, нязменным кіраўніком калгаса імя Кірава, Героем Сацыялістычнай Працы Сяргеем Дзмітрыевічам Лямешчанкам.... І яшчэ пад час гэтых сустрэч я меў *выдатную магчымасць* назіраць атмасферу ўзаемапавагі і даверу паміж партыйным лідэрам і кіраўнікамі гаспадарак. Яна давала ўсе падставы адказаць З. К. Ломацю на адно з маіх пытанняў: «Палітычнае кіраўніцтва — гэта работа з людзьмі». Але работа, прыгадваў я зноў «Анатомію падзёншчыны», не толькі па абавязку, а і па неабходнасці.

Сустрэліся мы з Зянонам Ломацем каля дзесяці гадзін раніцы. Недзе а дзесятай ўжо *гадзіне вечара развіталіся.*

Па дарозе назад, перабіраючы ў памяці падзеі дня, прыгадаў у які ўжо раз мудрыя чэхаўскія словы: «Жаданне служыць агульнаму дабру па*вінна абавязкова быць патрэ*бай душы, умовай асабістага шчасця, калі ж яно вынікае не адсюль, а з тэарэтычных ці іншых меркаванняў, то яно не тое...» Словы гэтыя яўна стасаваліся з уражаннем ад сустрэчы з першым сакратаром Слуцкага гаркома партыі. Ад сустрэчы гэтай дадалося веры ў перабудову, у наш заўтрашні дзень.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

## ВЕЧАРЫ, СУСТРЭЧЫ

**120-годдзе з дня нараджэння Максіма Горкага шырока адзначана ў нашай рэспубліцы. Да гэтай знамянальнай даты, якая ўспрымаецца важнай падзеяй у культурным жыцці, былі прымеркаваны спецыяльныя выстаўкі і стэнды ў бібліятэках, вечары, што прайшлі ў многіх установах культуры.**

**«Старонкі вялікага жыцця» — так называецца кніжная выстаўка, падрыхтаваная супрацоўнікамі Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна. Найбольшую ўвагу наведвальнікаў прыцягвае раздзел «Горкі і Беларусь». Як вядома, цесна вялікі пралетарскі пісьменнік быў звязаны з нашай зямлёй. Неаднаразова яго творы перакладаліся на беларускую мову. «Выбраныя творы», «Мае універсітэты», «Маці» — толькі паасобныя з іх.**

**Дарэчы, больш падрабязна аб сувязях М. Горкага з Беларуссю чытачы даведаюцца з кнігі А. Валахановіча (яна так і называецца — «Максім Горкі і Беларусь»), што выходзіць у выдавецтве «Навука і тэхніка». У ёй расказваецца пра ўплыў буравесніка рэвалюцыі на станаўленне і развіццё беларускай савецкай літаратуры, пра распаўсюджанне яго кніг у рэспубліцы, пастаноўкі п'ес на тэатральных падмостках Беларусі.**

**Вядомую горкаўскую трылогію, у якую ўвайшлі аповесці «Дзяцінства», «У людзях», «Мае універсітэты», выдавецтва «Юнацтва» выпусціла ў серыі «Школьная бібліятэка».**

**У сувязі са 120-годдзем з дня нараджэння М. Горкага да помніка яму ў Цэнтральным дзіцячым парку ў Мінску былі ўскладзены кветкі.**



Ускладанне кветак да помніка М. Горкаму.

Фота Ул. КРУКА.

**Чарговы вечар новай кнігі ў Доме літаратара быў прысвечаны завяршэнню выдання пяцітомнай «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» — унікальнага даведніка, што найбольш поўна і шматгранна адлюстроўвае развіццё беларускай літаратуры, тэатра, кіно, выяўленчага мастацтва, расказвае пра ўчарашні і сённяшні дзень культуры.**

**Уступным словам вечар адкрыў і вёў галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі І. Шамякін. Сваімі думкамі пра новае выданне падзяліліся доктар мастацтвазнаўства А. Сабалеўскі, доктар філасофскіх навук У. Конан, доктар філалагічных навук А. Мальдзіс, кандыдат гістарычных навук М. Піліпенка, доктар філалагічных навук А. Міхневіч.**



На ганку будучага музея М. Гарэцкага ў Малой Багацькаўцы.

**Вечар, прысвечаны 95-годдзю з дня нараджэння М. Гарэцкага, прайшоў у Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Вядучы вечара першы сакратар праўлення СП БССР Н. Гілевіч, Д. Бугаёў, С. Законнікаў, А. Пісьмянкоў, акадэмік Акадэміі навук БССР, пляменнік класіка нацыянальнай літаратуры Р. Гарэцкі, намеснік старшыні Мсціслаўскага райвыканкома А. Поклад, выкладчык сельгасакадэміі У. Ліўшыц падкрэслівалі вялікую ролю М. Гарэцкага ў развіцці беларускай літаратуры, усёй культуры.**

**Пісьменнікі выступілі таксама перад аматарамі літаратуры раённага цэнтра, наведалі радзіму М. Гарэцкага — вёску Малую Багацькаўку Мсціслаўскага раёна.**

**Тэкст і фота А. КАЛЯДЫ.**

ПЕРАБУДОВЕ — ІДЭІ АБНАЎЛЕННЯ

# «ПРАЙСЦІ ПРАЗ МОМАНТ ІСЦІНЫ»

**Лютаўскі Пленум ЦК КПСС павярнуў усіх нас тварам да школы, да народнай асветы, высветліў з усёй паўнатой становішча спраў у гэтай сферы і акрэсліў шляхі якаснай перабудовы школы. «Школа павінна прайсці праз момант ісціны, як прайшлі праз яго на Пленумах ЦК эканоміка і кіраванне», — сказана на Пленуме. Праз момант ісціны заклікана прайсці і народная асвета рэспублікі, дзе, акрамя агульных, усесаюзных, ёсць, безумоўна, і свае, спецыфічныя праблемы. Партыйны Пленум зыходзіць з таго, што рашаючай фігурай перабудовы ўсёй сістэмы адукацыі з'яўляецца настаўнік, выкладчык. І, трэба думаць, невыпадковы той факт, што ў пошце «ЛіМа» ў апошні час павялічылася колькасць пісьмаў, аўтарамі якіх з'яўляюцца іменна настаўнікі. Тры такія пісьмы, якія прыйшлі ў рэдакцыю амаль адначасова, мы друкуем ніжэй. Асаблівасцю іх з'яўляецца тое, што аўтары расказваюць пра свой непасрэдны педагагічны вопыт, дзеляцца сваімі штодзённымі назіраннямі. З пункту гледжання свайго прафесійнага вопыту, яны закранаюць пытанні, якія нядаўна разглядаліся на нарадзе ў ЦК КПБ, прысвечанай стану выкладання беларускай мовы і літаратуры ва ўмовах двухмоўнасці.**

## Мой настаўніцкі клопат

Рада, што нарэшце настаў такі час, калі пра нацыянальнае можна гаварыць як аб інтэрнацыянальнай праблеме, што адкрыта гаворым пра становішча беларускай мовы.

Я ўжо семнаццаты год працую ў школе і ўсё больш пераконваюся, што ў народнай асвеце няправільна размеркаваны гадзіны на навучанне дзяцей рускай і беларускай мовам. За прыкладамі далёка не трэба хадзіць. Возьмем праграму 4-га класа. Вучні прыходзяць да настаўніка беларускай мовы з трэцяга класа мала падрыхтаваныя, бо яны толькі-толькі ў трэцім класе пачалі вывучаць родную мову. У чацвёртым класе праграма па беларускай мове па аб'ёму і складанасці не ўступае праграме па рускай мове, але настаўнікі беларускай мовы чамусьці маюць у два разы менш гадзін на асваенне гэтай праграмы (7 гадзін у тыдзень на вывучэнне матэрыялу ёсць па рускай мове і толькі ў мінулым навучальным годзе стала 3,5 гадзіны на вывучэнне таго ж матэрыялу па беларускай мове, а было яшчэ менш). І так у кожным класе на вывучэнне праграмы па беларускай мове адводзіцца ўдвая менш часу, чым на вывучэнне такой жа праграмы па рускай мове. Зразумела, што дзеці паспяваюць толькі **знаёміцца** з тэарэтычным матэрыялам (амаль кожны ўрок ідзе новая тэма), вельмі мала часу адводзіцца на ўрокі развіцця мовы, на асваенне лексікі роднай мовы, амаль не застаецца часу на замацаванне вывучанага. У выніку ўжо у 4-м класе мы, настаўнікі роднай мовы, не маем магчымасці асвоіць з вучнямі праграмны матэрыял на тым узроўні, на якім асвойваецца падобны курс па рускай мове. І гэта паўтараецца з класа ў клас, мы не праходзім, не вывучаем матэрыял, а галопам ляцім па праграме ўслед за настаўнікамі рускай мовы, а навучаць мове, маўленню няма магчымасці, бо ў сярэднім мы маем 1,5 гадзіны ў тыдзень на вывучэнне мовы з 4-га па 10-ы клас. За такі час вучні не змаглі б авалодаць нават самай лёгкай мовай, а ў нас, у Беларусі, у дадатак да ўсяго склалася такое становішча, што родная мова з'яўляецца **не сродкам навучання, а аб'ектам вывучэння.**

Перашкаджаюць працаваць на ўроках беларускай мовы вучні, вызваленыя ад вывучэння мовы, але якія абавязкова прысутнічаюць на ўроках і ўяўляюць сабой падлеткаў, якім неабавязкова падпарадкоўвацца настаўніку. Яны часта зводзяць на нішто выхаваўчую сутнасць урока сваёй бяздушнасцю і пагардлівымі выказваннямі, адносінамі да беларускай мовы (пра гэта ўжо, здаецца, у друку пісалася).

Усе пералічаныя вышэй аб'ектыўныя прычыны ствараюць вялікія цяжкасці для работы і ў рабоце настаўніка роднай мовы. А ў правяраючых ствараецца ўяўленне, быццам настаўнік не хоча, не можа навучыць дзяцей роднай мове. Праверачныя работы вымушаюць падтасоўкі фактаў, іншымі словамі, вымушаюць хлусіць, паказваць становішча лепшым, чым яно ёсць, бо інакш ты, настаўнік, будзеш вінаваты ва ўсім.

З-за крыўды і невыносных умоў працы спецыялісты часта пакідаюць школу і ідуць працаваць не па спецыяльнасці.

Балюча глядзець і на тое, што нашы дзеці ў 4-м класе яшчэ не могуць прачытаць беларускую кніжку, бо яны не ведаюць мовы. А калі ж яны будуць чытаць дзіцячыя кніжкі, калі настаўнік зможа з імі абмяркоўваць іх? У 5—6 класах гэта ўжо яўна позна рабіць. Ды і не прывучаны дзеці да сістэматычнага чытання беларускіх кніжак, бо да чаго дзіця не прывучана з маленства, з дзіцячага садзіка, з пачатковай школы, то гэта і не ўвойдзе ў яго прывычку і патрэбу ніколі.

Не зразумела і тое, чаму на вывучэнне беларускай літаратуры ў школах Беларусі адводзіцца таксама ўдвая гадзін менш, чым на вывучэнне рускай літаратуры. Мноства разоў настаўнікі — беларусазнаўцы ўзнімалі гэтае пытанне і пытанне аб тым, чаму праграма па беларускай літаратуры застыла, чаму з такой цяжкасцю ўводзіцца ў школьны курс літаратуры тое лепшае, што створана нашымі мастакамі слова, а часцей за ўсё гэта абмінаецца школьнай праграмай, чаму так *мала часу адводзіцца праграмай* на пазакласнае чытанне, але ўсе гэтыя пытанні пакуль што і застаюцца пытаннямі. І вось выдатныя творы стаяць на паліцах у кнігарнях, бо нашы дзеці мовай не валодаюць, прачытаць кнігу не могуць. Ды выходзіць, што і патрэбы ў гэтым вялікай няма. У тыдзень часцей за ўсё бывае 1 гадзіна літаратуры, дык у яе ледзь умесцішся з праграмным творам.

Больш таго, кожны мастацкі твор звязаны з канкрэтнымі гістарычнымі падзеямі. Але іх трэба на ўроках літаратуры расказваць асобна, бо гісторыя БССР практычна ў сярэдняй школе не вывучаецца і не выкладаецца (8 гадзін усяго курса разнесена на 7—8 класы).

Гэтыя пытанні і праблемы настаўнікі беларускай мовы і літаратуры, настаўнікі гісторыі выказвалі работнікам Міністэрства асветы БССР на рэспубліканскіх педагагічных чытаннях, якія адбываліся ў бягучым навучальным годзе. Але ад тав. Круглея М. М. атрымалі адказ, што пераглядацца гадзіны на вывучэнне гэтых прадметаў не будуць, не будзе ўведзена і навучанне беларускай мове з першага класа, а вось вызваляцца ад вывучэння беларускай мовы будуць усе жадаючыя. Значыць, мы зноў маем тую ж бескантрольнасць у справе вызвалення ад вывучэння беларускай мовы, што была ў 60—70-ых гадах. Але ў такім стане гэтае пытанне заставацца не можа. Бо нашы вучні, не валодаючы мовай, не могуць далучыцца да нацыянальнай культуры і літаратуры, а дрэннае веданне гісторыі народа нараджае раўнадушнасць і да падзей сённяшняга дня.

Праблемы наспелі і іх трэба вырашаць.

**А. БУРБОУСКАЯ,**
**настаўніца**
**беларускай мовы і літаратуры**
**СШ № 121 г. Мінска.**

## Асобны ці адзіны?

Паважаная рэдакцыя! Звяртаецца да вас аспірант кафедры гісторыі СССР МДПІ імя А. М. Горкага Калбаска А. М. На працягу апошняга часу ў «ЛіМе» з'явіўся шэраг крытычных матэрыялаў пра стан падручнікаў па гісторыі Беларусі і выкладанне гэтага прадмета ў школе.

З гэтай нагоды хачу выказаць свае меркаванні. Здаецца, што шлях, які прапануюць аўтары артыкулаў, уключэнне ў падручнікі новых звестак і імёнаў, распрацоўка новага падручніка (шлях, безумоўна, правільны), не здольны прывесці да галоўнай мэты — да ведання вучнямі і насельніцтвам Беларусі сваёй гісторыі. Корань сённяшняга становішча — не столькі ў якасці падручніка, колькі ў тым прынцыпе, на якім будуецца выкладанне прадмета ў школе. Прынцып жа гэты зводзіцца да наступнага. Увесь курс гісторыі Беларусі, асветлены ў адзіным падручніку, вывучаецца, згодна з праграмаю, на працягу чатырох гадоў: з восьмага па адзінаццаты клас. Так, у восьмым класе ў курсе гісторыі СССР прадугледжваецца 9 асобных гадзін для вывучэння гісторыі Беларусі (з 68), у дзевятым 5 з 47, у дзесятым — 8 з 73, у адзінаццатым — 6 са 102. Пры гэтым у праграме абумоўлена, што змест астатніх параграфаў падручніка па гісторыі БССР вывучаецца ў дачыненні да адпаведных тэм з курсу гісторыі СССР. Максімум, які забяспечвае вывучэнне гісторыі Беларусі такім чынам, наступны: вучні ведаюць, што існуе асобны падручнік па гісторыі Беларусі, але не ведаюць гісторыі Беларусі. Да такога выказу я прыйшоў як у выніку асабістага вопыту працы ў якасці настаўніка гісторыі, так і шматлікіх размоў са студэнтамі інстытута, з якімі даводзіцца працаваць зараз. Мне могуць запярэчыць, што так атрымлівалася ў цябе, бо ты не самы лепшы настаўнік. Хай сабе. Але лепшых—адзінкі, а размова ідзе пра тысячы не лепшых і маладых, якія амаль кожны вечар, рыхтуючыся да ўрокаў, вырашаюць дылему: як скампанаваць матэрыял, каб выкласці тэму па гісторыі СССР і каб звесткі пра гісторыю Беларусі былі сістэматычнымі. Калі гэта не так, хай мяне аспрэчаць настаўнікі.

Паўстае пытанне: ці клапаціліся аўтары існуючай праграмы пра настаўніка, якому трэба штодня яе выконваць, і пра вучняў, якім трэба ведаць гісторыю Беларусі? Ці мэтаю іх было, як пазначана ва ўводзінах: «...формирование у учащихся знаний об истории республики; ...воспитание непримиримого отношения к любым проявлениям буржуазной идеологии и рецидивов национализма»? Наўрад ці можна віншаваць аўтараў з выкананнем пастаўленых задач.

Дзеля большай яснасці паспрабуем правесці ўмоўную аналогію ў маштабах краіны. Уявім на хвіліну, што з мэтаю хутчэйшага выхавання інтэрнацыяналістаў уся колькасць гадзін, адведзеная на выкладанне гісторыі СССР у школах краіны, падзелена паміж курсамі сусветнай гісторыі. А матэрыял па гісторыі краіны, пры наяўнасці існуючых падручнікаў, вывучаўся б толькі ў сувязі з той ці іншай тэмай з гісторыі чалавецтва (напрыклад, першабытны лад на тэрыторыі СССР — у шостым класе разам з тэмамі пра першабытнае грамадства, сярэднявечча — у сёмым і г. д.). Ці ведалі б вучні краіны гісторыю СССР? Не. Нават уявіць такое цяжка. Але ў рэспубліцы мы маем менавіта такое становішча. І не толькі маем, але шмат гадоў рупімся дасягнуць недасяжнага — даць веды па гісторыі Беларусі.

Што прапаную? Магчымы два шляхі выйсця са становішча. Калі лічыцца немэтазгодным (чаму?) утварэнне побач з гісторыяй СССР асобнага прадмета і курса гісторыі Беларусі, якому б мог адпавядаць асобны падручнік, то, пэўна, трэба стварыць адзіны курс і падручнік, які б, напрыклад, мог мець назву «Гісторыя Айчыны». У адпаведнасці з тымі сацыяльна-гістарычнымі і палітычнымі этапамі, якія прайшла ў сваім развіцці Беларусь, ён бы на ўзроўні складальнікаў праграмы і аўтараў падручніка вырашаў, як дакладней спалучыць той ці іншы матэрыял гісторыі краіны з гісторыяй рэспублікі. Адзінай праграме павінен адпавядаць адзіны прадмет і адзіны падручнік.

Пакуль гэта не будзе зроблена, пытанне аб веданні гісторыі Беларусі будзе заставацца пытаннем.

**А. КАЛБАСКА,**
**настаўнік гісторыі,**
**аспірант МДПІ імя А. М. Горкага.**
**в. Ганцавічы,**
**Барысаўскі р-н.**

## Адразу—у двухмоўе

Уважліва чытаю на старонках «ЛіМа» матэрыялы па пытаннях развіцця нацыянальнай культуры, гісторыі, мовы і літаратуры. Вельмі ўразіла (можа, не столькі ўразіла, як — адпавядае маім думкам і пачуццям) выступленне Ніла Гілевіча «Імем сапраўднага інтэрнацыяналізму» («ЛіМ», 11.03. 88). «Пакуль мы не прызнаем, што адымаць у дзяцей з ранняга ўзросту магчымасць жыць у стыхіі роднай мовы — гэта амаральна.., **пакуль мы гэтага** не зразумеем і не прызнаем — гармоніі ў наладжванні ўзаемаадносін нацыянальнага і інтэрнацыянальнага не дасягнем». Цалкам згодна: гэта і амаральна, і неразумна.

Адразу ж падкрэслю, што **не дзеці** вінаваты ў «вызваленні» іх ад вывучэння роднай мовы ў школах. Я ўжо больш за 20 гадоў выкладаю родную мову ў рускай школе. Калі пачынала, гэта было сапраўды «жахліва». У класах было па 10—15 *вучняў, якія былі «вызвалены»* ад роднага слова. І падумайце толькі, які абсурд: ад мовы «вызвалялі», а літаратуру — вучылі. То як жа вучань мог любіць літаратуру, не ведаючы мовы? У такой абстаноўцы амаль немагчыма было выхоўваць любоў да роднага слова.

Вінаваты былі і настаўнікі пачатковых класаў (бо іменна ў 3-м класе пачыналася гэтае «вызваленне»), і настаўнікі іншых прадметаў, а часам яны ж і бацькі (магла б назваць прозвішчы настаўнікаў, што ў свой час «вызвалілі» сваіх дзяцей ад роднай мовы, матывуючы гэта тым, што іх бацькі — ваеннаслужачыя, хоць кожнае лета гэтае дзіцятка ехала ў вёску да бабулі ў не такія далёкія Грыцэвічы ці ў наша смаргонскае Залессе). Была неаднаразовай сведкай, калі настаўніца рускай мовы дражніла-перадражнівала дзіця, калі яно гаварыла з беларускім акцэнтам. Вінаваты былі і дырэктары школ. Аднаму настаўніку роднай мовы цяжка было ваяваць на педсавеце: заявы бацькоў чыталіся на педсавеце, і рашэнне прымалася па выніках галасавання (супроць былі звычайна толькі настаўнікі беларускай мовы).

Зараз мне працаваць лягчэй. З прыходам у школу дырэктара С. П. Мінкевіча колькасць такіх «вызваленых» значна зменшылася. Ён здолеў так арганізаваць работу педсавета, што «вызваляць» сталі ў вельмі рэдкіх выпадках.

А ў апошнія гады пра мову, нарэшце, загаварылі і «вышэй». А то ж сапраўды атрымліваецца непаразуменне. Гаворачы пра творчасць Янкі Брыля («Сірочы хлеб», напрыклад), *кажам, што пры* Польшчы беларуская мова была забаронена (але ж было 2-3 гадзіны ў тыдзень!). А цяпер? Кажам дзецям: пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі беларуская мова атрымала магчымасць для свайго развіцця. А дзе ж яны, гэтыя магчымасці? На беларускую мову і літаратуру з *4-га і да 10-га класа адводзяцца* лічаныя гадзіны. Не дзіўна, што з 4-га да 10-га вучні робяць адны і тыя ж памылкі: на **ў**; на **дз, дж**; на правапіс **е, я**... Бо няма часу практыкавацца. Бяжым «галопом по Европам». Трэба ж паспець выканаць праграму. А якасць? На сумленні настаўніка? Зноў не згодна. Я лічуся нядрэннай настаўніцай, але мае вучні не ведаюць дасканала родную мову, бо... мала часу на яе вывучэнне.

Праўда, нядаўна ў тэлечасопісе «Роднае слова» паабяцалі, што ў красавіку будзе надрукаваны для абмеркавання праект новай праграмы. Чакаю з нецярпеннем. А раптам?!

І яшчэ. Абяцаюць пачаць вывучэнне роднай мовы не з 3-га, а з 2-га класа. Вядома, гэта ўжо шмат. Але... чаму не з 1-га класа? Мяняць, дык ужо мяняць адносіны. Мне здаецца, настаўніца 1-га класа сказала б дзецям «мама» па-руску і «мама» па-беларуску, «тата», «бацька», «бацькаўшчына» і «папа», «отец», «отчизна». І дзіцятка адчула б і роднасць дзвюх моў, і невялікую розніцу. І само б шукала гэтых супастаўленняў. І лепш засвойвала б. Карацей, ці не лепш адразу ўводзіць дзіця ў двухмоўе?

Нядаўна (з 14 па 19 сакавіка) у нашай школе праходзіў Тыдзень беларускай мовы і літаратуры (пра гэта і пра работу клуба «Роднае слова» можна напісаць асобна, толькі я сёння настроена на тую ж незадаволенасць існуючым становішчам). Вучні 8—10 класаў пісалі конкурснае сачыненне «Мова мая родная». Што характэрна амаль для ўсіх работ? Пішуць, што мова наша ласкавая і мілагучная, што яны любяць слухаць бабуліны казкі і апавяданні, што яны любяць родную мову... І ўсе адзначаюць, **што вывучаць пачалі з 3-га класа.**

Хочацца спадзявацца, што адносіны да роднай мовы і літаратуры зменяцца ў лепшы бок. А за настаўнікамі справа не стане. У нас у горадзе настаўнікі беларускай мовы робяць усё, каб яна сапраўды развівалася і ўдасканальвалася. Аб гэтым могуць расказаць і члены клуба «Спадчына» ў школе-інтэрнаце, і «Крынічкі» ў СШ № 4, пераможцы гарадской алімпіяды па беларускай мове з 3-й школы, члены клуба «Роднае слова» з нашай школы.

**А. РУДКО,**
**настаўніца СШ № 1.**
г. Смаргонь.

## КНІГАПІС

Павел Ткачоў
МАНІФЕСТ НАРОДНАГА ШЧАСЦЯ



П. ТКАЧОЎ. Маніфест народнага шчасця. Для малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту. Мінск, «Юнацтва», 1987.

**Кніга Паўла Ткачова «Маніфест народнага шчасця» мае падзагаловак «Расказ аб праграме КПСС». Пісьменнік у даходлівай форме знаёміць юных чытачоў з асноўнымі палажэннямі гэтага важнага партыйнага дакумента, паказваючы, як Праграма КПСС скіравана на тое, каб стварыць усе ўмовы для шчаслівага, духоўна багатага жыцця савецкіх людзей.**

Эдуард Ярашэвіч
Чакаю цябе, раніца

Э. ЯРАШЭВІЧ. Чакаю цябе, раніца. Аповесць. Для старэйшага школьнага ўзросту. Мінск, «Юнацтва», 1987.

**Аповесць «Чакаю цябе, раніца» завяршае трылогію Эдуарда Ярашэвіча, у цэнтры якой лёс Андрэя Луневіча, тыповага *прадстаўніка свайго пакалення*, маленства якога было апалена вайной. У папярэдніх аповесцях «Нехта вернецца з вайны» і «Сонечнае лета» расказвалася пра мужанне і сталенне Андрэя.**




П. МІСЬКО. Грот афаліны. Аповесць. На рускай мове. Мінск, «Юнацтва», 1988.

**Беларускія дзеці ўжо знаёмыя з героямі аповесці Паўла Місько — дванаццацігадовым Янгам і яго сябрамі, што жывуць на адным з архіпелагаў, змагаюцца за свабоду і незалежнасць свайго народа. Цяпер твор папоўніў «Бібліятэку прыгод і фантастыкі» (аўтарызаваны пераклад А. Часнаковай) і адрасуецца рускамоўнаму чытачу.**

Музыка и хореография современного балета

МУЗЫКА І ХАРЭАГРАФІЯ СУЧАСНАГА БАЛЕТА. Зборнік артыкулаў. Выпуск 5. На рускай мове. Ленінград, «Музыка», 1987.

**Чарговы выпуск зборніка, які выходзіць з 1974 года, знаёміць з творчасцю вядучых кампазітараў і балетмайстраў, разглядае тэарэтычныя пытанні сучаснага балета, аналізуе музычную аснову і харэаграфічнае рашэнне спектакляў. Поруч з іншымі матэрыяламі змешчаны артыкул Ю. Чурко «Харэаграфічнае мастацтва ў эпоху навукова-тэхнічнай рэвалюцыі».**

# КАБ ДУША НЕ МАЎЧАЛА

Паэзія пачынаецца з душэўнага ўзрушэння. Чалавек, эмацыянальна бедны, абыякавы, наўрад ці можа быць добрым паэтам, тым больш паэтам-лірыкам, бо лірыка — той род літаратуры, дзе выключную ролю адыгрывае асоба творцы з яе роздумам, пачуццямі, перажываннямі. Лірычны талент у большай меры, чым які іншы,— гэта абвостраны слых, зрок, здольнасць суперажываць, адчуваць чужы боль, як свой, быць гранічна шчырым, праўдзівым. На жаль, у апошнія гады знізіліся ў нас патрабаванні да паэзіі. Любое, самае нязначнае і неістотнае выказванне ад *першай асобы* часам выдаецца за яе.

Мяне заўсёды цікавіць, хто ідзе ў літаратуру, з якім запасам жыццёвых сіл і пераканання, з якім чалавечым вопытам, узроўнем культуры.

Першая кніжка У. Марука «Зоркі ў кронах» (1982) засведчыла настойлівы намер былога настаўніка, журналіста паспрабаваць свае сілы ў паэзіі. Па ёй яшчэ цяжка было меркаваць пра меру адоранасці аўтара. І вось з прамежкам у чатыры гады з'явілася новая кніга. Час немалы. І зусім зразумела, што ў паэта ўзнікла патрэба выказацца, прадоўжыць дыялог з чытачом.

**Мне верш, што ненапісаны,**
**патрэбны,**
**Каб веру у сябе не патушыць,—**

скажа пазней аўтар, прадчуваючы, што сапраўдныя яго вершы наперадзе.

У. Марук назваў новы зборнік «Ліст рабіне». Лісты пісаліся і раней («Белыя пісьмы», «Лісты з грымотнай цішыні»), толькі яны адрасаваны людзям, а тут — рабіне... Любоў аўтара да прыроды сцверджана не толькі назвай кнігі, але і шэрагам вершаў, дзе раскрываецца ўзаемасувязь чалавека з навакольным светам. Сярод іх — «Садоўнік», «Я бачыў — дрэва прагне волі...», «Зноў гаспадарыць дождж на панадворку...», «Спёка», «Асенняе». І ўсё ж, чытаючы вершы, бачыш, як зборніку нестае мастацкай выразнасці, *спеласці паэтычнай* думкі, майстэрства ў самым шырокім сэнсе слова, унутранага неспакою. Большасць твораў успрымаюцца як інфармацыя пра змены ў прыродзе, плынь рэчак, пра дзятліка і матылька, траву і шум лесу, малых рыбак і старыя таполі.

З большай навізной і маляўнічасцю гэта было апета іншымі аўтарамі. У кнізе ёсць, праўда, далёкія адгалоскі апошняй вайны. А дзе ўласная біяграфія паэта, непаўторны набытак яго чалавечага вопыту, надзённыя клопаты сучасніка? Замест гэтага — надуманасць, штучнасць, бязладдзе. Возьмем адзін з такіх вершаў. Прысвечаны ён, відаць, землякам аўтара.

**Не трэба далёка, высока**
**Нясці свае ногі і рэчы,**
**Каб згледзець, як ясна навокал**
**Ад светлых галоў чалавечых.**

Як гэта можна высока несці «свае ногі і рэчы»? І чаму ногі і рэчы пастаўлены тут побач? Ды і апошні радок гучыць неяк двухсэнсоўна, бо не галовы, а светлыя твары чалавечыя маюцца тут на ўвазе. Не ўзрадуе чытача і наступная страфа:

**Дзе так зберагалі ўспаміны,**
**Што лёгка паверыць на слова,**
**Дзе трапныя кепікі-кпіны**
**Ляжаць да пары, нібы**
**дровы...(?)**

Што і казаць: землякі паэта заслугоўваюць лепшага вершапрысвячэння. І «дровы» тут зусім непатрэбныя, не з той, як кажуць, оперы.

У анатацыі да кнігі сказана: «Вершы ў паэта часта набываюць філасофскае гучанне». Гэта цікава, бо філасофіі якраз і не хапае нашай сучаснай паэзіі. Аднак не паляпшаецца становішча і з выхадам кнігі У. Марука. Нямала ў ёй цьмянага, з прэтэнзіяй на філасафічнасць. Узяць хоць бы верш «Цень»... У першай жа страфе сказана: «Цені пахаваліся ў зямлю», у другой — «над зямлёю цень вечнасці». І далей:

**Не спяшае птушка адлятаць,**
**Чалавек за ценем не бяжыць:**
**Немагчыма ценю пераняць,**
**Каб спытаць, як лёгка ценем**
**быць.**

Таямнічы, загадкавы цень прамільгнуў і ў вершы «Адышоў і гэты светлы дзень...»

Аб'ектамі разважання аўтара найчасцей бывае трава («Я стаю над травой»), дарога («І нясе нашы раны...»), лёс, які існуе чамусьці асобна ад чалавека («Паходзіць скрушна ля бяроз, паплача і пад ранак прыйдзе»).

Невыразны, колькі ні чытай, не дабярэш сэнсу, і верш «Світання свет далёкі». Яго завяршае надта катэгарычны тэзіс пра тое, «што ўсіх яднае час». Але ж не толькі яднае, бывае, і раз'ядноўвае.

Зусім выпалі з поля зроку аўтара сацыяльныя адносіны паміж людзьмі, канкрэтныя штрыхі гістарычнага часу. Аддаецца перавага адцягненым прынцыпам і катэгорыям, накшталт: «Абярніся — зямля за *табой, прыпыніся — ніхто не* вяртае... Абярніся — абернецца лёс, прыпыніся — дарога дагоніць».

Здзіўляюць нечаканасцю і недакладнасцю асобныя выразы, што нібыта нясуць у сабе жыццёвую мудрасць («...у тым, каго не пазнаю, уяўляю светлага прарока», «Бо дарэмны занятак адкрываць адкрыццё, ды і свету пачатак — не далей, чым жыццё»). Невядома, для чаго напісаны прывідныя, загадкавыя вершы «Помнік двух удараў вёсламі» і «Ноч пасля набыцця дывана».

І нават пра жыццёвую дарогу, якую мае права выбіраць сабе кожны, аўтар гаворыць, ужываючы неапраўданую сімволіку, якую цяжка расшыфраваць («Дарога», «Мы селі зноў на мель», «Дождж вяртаецца васільком...»).

А творы пра каханне? Яны ахутаны таксама халоднай развагай. *Мяркуйце самі:*

**Будзь такой, якой не знаю,**
**Як любоў у дні любві,**
**Будзь такой, якой чакаю,**
**Каб сказаць табе: «Жыві!»**

**Дзеля дзён, што засталося, —**
***Лёс не хопіць перашыць...***
**Будзь як свет, што лёс**
**папросіць,**
**Каб табе было дзе жыць.**

**Дзеля веры, дзеля меры,**
**Што адпушчана крыві,**
**Будзь вялікай, як намеры**
**За прамоўленым «жыві».**

Такая надуманасць у вершах «Паглядзі на лес, на снег у полі», «Не магу я інакш». У каханні без душы нельга, тут душа проста-такі неабходна, але ў вершах Марука яе няма. Праўда, само слова **душа** прысутнічае, паўтараецца ў дваццаці сямі вершах, бывае, што і па два-тры разы, ды ад гэтага ні душэўнасці, ні цеплыні, ні чалавечнасці ў іх не прыбаўляецца. Душа павінна адчувацца ва ўсім вобразным ладзе твора, павінна працаваць. Як сказаў вядомы літоўскі паэт: няхай чытач сам знойдзе душу, ся яшчэ ў першай кніжцы, хаця там толькі парасткаваліся, былі ценькімі. Ужо тады паэт нерытарычна разважаў: «руплівы век, падай і мне руку — твая ж я кропля, бойся кроплю страціць». Здавалася б, ніякага застаецца далёкі ад рэлігійна-містычных уяўленняў.

**Лес і поле. Поўнае святло.**
**Кожны лісцік, як ДУША,**
**свіціцца.**
**Колькі нас, няўважлівых,**
**прайшло**
**Каля вас, авёс, чабор,ігліца...**
***Каля вас, жывыя карані —***
**Вечнасці найноўшыя каралі...**
**Колькі вы ДУШЫ і цеплыні**
**Людзям і нябёсам аддавалі!**

Ці можа ў дрэннага чалавека душа свіціцца?

Магчыма, ён і адукаваны, валодае пэўным інтэлектам, але... душу аддаць — яна ў яго сляпая — няма яе.

Сапраўды, чалавек — непаслухмяны жыхар прыроды — не грэбуе ніякімі сродкамі, каб дасягнуць карыслівай мэты. У Марука прырода жывая, яна нароўні з людзьмі прымае і трымае чалавечыя і радасць, і гора. З болем і смуткам піша паэт пра нашы бездухоўныя адносіны да яе. А гэта інакш не назавеш, як здрадай будучыні. І хіба мы, заціснутыя ў геаметрычныя камяніцы, не цяплеем ад пралескавай цеплыні, а хіба хвалі роднай Свіслачы не лашчаць пакрыёма не толькі мураваны бераг, але і бераг нашай душы? Паэт адчувае, як «лёгка дыхае сасна», і гаворыць: «птушцы кожнай кіпцюрык вымыю — адно крыляй».

Няўтульна стала на зямлі нашым меншым братам, паменела іх у лясах, вадзе, у гнёздах.

**І ніяк не саграшу —**
**Іх у небе прывітаю...**
**Я птушыную душу**
**Да мужчынскай прыхінаю.**

Мы гаворым: Зямля—калыска нашай долі. Але чаму тады так нядбайна адносімся да яе, не шануем? Сёння, каб выжыць, трэба захаваць «вернасць бацьку і роду», «бо ў вернасці нашай матуля адна— Беларусь!», бо «рэкі з Палаты бяруць пачатак, неба—ад Скарынавых вачэй».

**І цяжкіх шляхоў**
**Не вінаваціў,**
**На зямлю і неба**
**Не ківаў...**

## ДЗВЕ ДУМКІ
### пра кнігу У. МАРУКА «ЛІСТ РАБІНЕ»

**Другая кніга звычайна бывае сур'ёзным выпрабаваннем для паэта, бо не заўсёды ён у стане «вытрымаць вышыню», набраную ў першым зборніку, а тым больш пераўзысці яе. Дзве думкі пра кнігу У. Марука «Ліст рабіне» (Мінск, «Мастацкая літаратура», 1987), якія штотыднёвік змяшчае сёння, узаемна дапаўняюць адна другую, бо крытык М. Барсток у асноўным засяродзілася на недахопах, а паэт І. Рубін падкрэсліў вартасці кнігі.**

# «...НЕ ХОЧАЦЦА БЫЦЬ АДЗІНОКІМ...»

«Свет пачынаецца з малога— і гэтым ён вялікі, свет». Гэта радкі з новага зборніка Уладзіміра Марука «Ліст рабіне», дзе чалавечая душа цеснай еднасцю злілася «з кронай, карэннем і чыстай вадой».

У. Марук па сваім складзе— *паэт-лірык*. Слова яго нягучнае, некрыклівае, але пранікнёнае. Прыходзіць яно спакваля, калі гэтага душа патрабуе («Незвычайныя словы пачуць па сакрэту, што заходзяць у сэрца глыбей і глыбей...»). Безумоўна, кожны з чытачоў вольны выбіраць вершы па сэрцу і па густу. Не выключана, што сёння нягучная паэзія Марука можа здацца некаму другаснай. Такое вакол дзеецца, столькі ў грамадстве віравання, зрухаў, а тут нейкая травінка, рабінка, рачулка, сасонка, сцяжынка. Колькі было чутно абуральных галасоў—маўляў, старое, нуднае, непатрэбнае... Праўда, час даволі ўладна расстаўляе над усім свае кропкі. Не захаваем сёння расінку, травінку, рачулку, дзедаву магілу — заўтра страцім Айчыну, мову. Дзіця не пашкадуе сёння птушаня ці звярка — заўтра не пашкадуе і чалавека. Відаць, тут адны́мі пастановамі, крыкамі і шумам бядзе мала дапаможаш. Патрэбен і спакойны, разважлівы голас. Як сказаў Мікалай Рубцоў: «пусть не шумят, а пусть поют во все свои земные голоса!»

«Свет разумны, ясны розум» — гэта нам сёння так неабходна.

І добра, што разам з набатам і «вячысты званочак звініць».

**На прасторы празрыстай,**
**прасторы шырокай**
**Навакольныя гукі**
**наведваюць нас.**
**Добра слухаць,**
**што шэпчуць над хатай**
**аблокі.**
**І чуваць,**
**што гаворыць яна у адказ.**

Чалавеку сёння патрэбны і касмічная ракета і васілёк, «што ўзвышаюць жыцця цану». А «хто крынічку задушыў — не пашкадуе мора». Тут немагчымы кампраміс. Як і ў прыведзеных радках.

**Ёсць шлях наперад і назад.**
**Таксама — вера і нявер'е:**
**Адна — што выручыць**
**з-за крат,**
**Другое—моўчкі твар адверне.**

У Марука такіх «катэгарычных» вершаў нямнога. Ён пазбягае голай рыторыкі. Паэту дастаткова разважлівай, роздумнай плыні.

Гэта рыса прывабная ў паэзіі Марука. Яе вытокі намецілі цуду, адкрыцця, але ўсё гэта засвойвалася на ўласным вопыце:

**Там гаю зялёны крык**
**І возера.**
**І магілы.**
**І самы цвярозы разлік**
**Не мае без гэтага сілы.**

Аказваецца, пра любоў да Айчыны можна сказаць без гучных слоў і слязлівай сентыментальнасці.

Зялёны крык лесу і крык душы. Як яны сёння гучаць? Ці кожны з нас іх чуе? Акрэплі нашы галасы, праясняецца розум. Але, каб у гэтай моцы мы зноў не забыліся пра душу, чалавека, яго праблемы «малыя» і «вялікія». І верыш паэту, калі ён сцвярджае: «шмат забыла душа мая цёмная, запытаюся ў светлай душы».

Так, вобраз душы даволі часта сустракаецца ў вершах Марука. Можна сказаць, што ён выступае ў паэта як своеасаблівы паэтычны троп, яго нельга адназначна перакласці на мову логікі. Хаця дзе-нідзе паэт, магчыма, злоўжывае ім, выкарыстоўвае не да месца. Часта гэты вобраз па-паганску заземлены, зліваецца з прыродай — дрэвам, зверам, вадой, — ажыўляе, адухоўлівае яе, але

**ПРОЗА**



Сяргей Дубавец

# Эпілог

*Апавяданне*

1.

...ВОСЬ і ўсё. А што было потым? Саша сядзеў на пні паміж спілаваных прысадаў і пазіраў, як канае дзень.

Насупраць, на рудаватым палетку, марнела ў бязветрыве голае дрэва. За дрэвам цягнулася стужка Каргоцкага лесу. Над лесам віcела ружовае сонца. Не свяціла, не грэла.

Было ціха. І Саша нібы скамянеў у навакольнай нерухомасці і немаце. Толькі шчыльней падкурчыў пад сябе ногі, тужэй абцягнуўся шынелікам і стараўся не варушыцца, нават не думаць. Каб не траціць цяпла.

Неўзабаве, аднак, яму стала зябка. І ён ужо хадзіў-грэўся каля дарогі, збіраў голле. Тады распаліў агонь.

Калі ж завязаўся дымок, Сашу зноў званітавала. Ён плакаў, нечага мітусіўся. Потым сцягнуў з сябе шынелік, стаў атрасаць з яго ваніты, бруд, сажу. Але марна. Тлустыя чорныя плямы наскрозь паўядаліся ў сукно. Тады Саша кінуў шынелік на шлях, прысеў на калені і стаў заціраць бруд дарожнай гразёю. Такі быў ягоны занятак, калі паказаўся атрад.

Першы ехаў начальнік, следам—салдаты. Усяго сем ці дзевяць коннікаў.

У канцы калоны сунуўся воз з усялякімі трантамі. Побач з возам ішлі палонныя. У маладым, але ўжо лысым хударлявым мужчыне Саша пазнаў ранішняга ксяндза. За ксяндзом увесь час падбягала дзяўчынка — гадоў на чатырнаццаць, уся нейкая шэранькая — і сукенкай, і косамі, і вачамі — непрыкметная. Трэці вязень — мужык з перабітымі нагамі — сядзеў на возе.

Гледзячы на атрад, Саша аціраў далонямі заплаканы твар. Урэшце ён кінуўся да начальніка і скрозь зубы крыкнуў:

— Это вы во всем виноваты!

Начальнік жа толькі й адказаў:

— Возьмите себя в руки, юнкер. Найдитесь сами отвечать за свои поступки.

Сашу падалі каня, і ўсе рушылі далей. Быццам нічога не адбылося.

Паволі атрад расцягнуўся на шляху доўгім ланцугом. Усе тут былі насупленыя, невясёлыя. Маўчалі і вязні. Кожны з іх адно ўзіраўся ў біты, парэпаны брук. А паабапал дарогі стаялі ўсё тыя ж учарнелыя ад нядаўняга снегу пні.

Апынуўшыся паміж сваіх, Саша хутка супакоіўся. Ужо праз колькі вёрстаў ён адчуваў толькі панылую абыякавасць да ўсяго, што было і што яшчэ будзе.

Адразу за паваротkай на валасць начальнік загадаў усім спешыцца. Тут, за трыццаць крокаў ад шляху, на палетку стаяў стары панскі свіран. Вязняў падвялі да глухое сцяны. Салдаты не шыхаваліся. Проста ўскінулі стрэльбы: хто флінту, хто штуцар.

І раптам сказаў ксёндз:

— Я патрабую выроку!

Начальнік на тое ўсё адно як пажартаваў:

— Может, тебе еще и попа позвать?

Дзяўчына спалохана пазірала на святара, а той раптам павярнуўся да сцяны: ці то маліўся, ці то разглядаў патачаныя шашалем бёрны.

— Ладно, хватит,— сказаў начальнік і махнуў рукой...

Перад самым мястэчкам іх нагнаў казачы раз'езд. І цяпер усе ехалі без ранжыру, адным бязладным гуртам, з рогатам і крыкамі. А справа ад іх, у маўклівым холадзе наваколля, плыло чырвонае сакавіцкае сонца.

2.

Скажыце, што вы свой. Скажыце, што вы не карнік. І я распавяду вам усё папраўдзе, як было. Толькі скажыце, што вы тутэйшы...

Цяперака позна. Недзе баба мая Анэля, ужо расплячоная, моліцца на святы абраз. Ці ж пабачыць яна яшчэ калі сваю Гэльку? Ці будзе злаваць на мяне?

Мусіць, заслуе. Бо пайшла яе Гэлька, не сказаўшы, куды. Толькі ж яна ведае, куды. Адно, што не папярэдзіла...

Зноў пад ноч пана Каню дрэнчыць ягоная хвароба. Ажно сюды далятаюць ягоныя крыкі: то польскія модлы, то расейская лаянка. А ў адказ, як па камандзе, пачынаюць брахаць усе вясковыя сабакі. І гэтак на ўсю ноч. Людзі кажуць, што пан крычыць, аж пакуль не разбудзіць пеўняў...

Не, я не баюся адна ў начным лесе. У мяне багата работы. Я вартую зброю. Яна вунь там, пад маліннікам. У нас адна даўжэзная стрэльба, дзве касы і нажы. Няшмат, але ж і нас толькі тры чалавекі.

З вечара, як загадаў айцец Аболя, я пабегла па хатах, каб згукаць нашых мужчын. Тых, з якімі мы збіралі абоз. Але ніхто чамусьці не пайшоў. Адзін толькі Ясь Кончыц, бедны батрак, згадзіўся. А Качаніха сказала, што Качан заўтра паедзе на кірмаш у Пагост, каб купляць каня. Ведама. Гэтак цяжка было ім сабраць тыя грошы. А ў Гахта цяпер перасыпаюць страху. Колькі ўжо туліцца іхняя сямейка па суседзях. У Лапусты адзінаццаць дзяцей. А Дзіндзя сказаў, што яго і ў вёсцы не крануць. Заўтра туды прыедуць карнікі. Так казаў айцец Аболя. Можа, і праўда, не крануць...

Хутка вернецца з конямі Ясь, і ў мяне будзе трошкі часу, каб павучыцца ездзіць у сядле. Пакуль не прыйдзе наш святар. Да світанку.

У мяне маленькі агеньчык, які ледзь-ледзь грэе.

Вы слухаеце? Вазьміце мае рукі ў свае. Вось так. Мой тата заўсёды браў мае рукі, калі хацеў, каб я казала яму ўсё-ўсё, усю шчырую праўду.

Татка быў аднадворац, а мама памерла даўно.

Калі пачалося паўстанне, тата пакінуў нас удзвюх з бабуляй, а сам пайшоў ваяваць.

Перш ён хацеў быў збіраць атрад з нашых мужчын. Хадзіў па вёсцы цэлы дзень. А калі вярнуўся, сказаў, што пакуль загаворыць Любіша, усе ўжо нагаворацца й разыдуцца.

Тады тата з дзядзькам маім Вітасём Івацэвічам падаліся ў іншыя мясціны. І мы доўга не ведалі іхняга лёсу. А вярнуўся з паўстання толькі дзядзька Вітась. Ён распавёў, што татка трапіў у рукі карнікаў і загінуў. А праз чатыры дні пасля гэтага не ўратаваўся і дзядзька. Яго забралі казакі.

Потым дайшлі да нас страшныя чуткі пра тое, як загінуў мой тата. Людзі казалі, што ў бойцы ён страціў сваю зброю і трапіў у аблогу маскалёў. А каб не папасці ў палон, дык сам, голымі рукамі задушыў сябе. Гэта было мінулай вясной. Год таму назад.

Можа, вы нешта чулі пра бітву пад Мілатой? Можа, вы чулі пра паўстанчага камандзера Адольфа Старачынскага? Гэта мой тата.

Вы не думайце, я не буду плакаць. Толькі не пускайце мае рукі. Я распавяду вам усё, як было. Толькі глядзіце мне ў вочы. Гэта зусім не страшна, вы звыкнецеся...

Пасля таго з'яўляліся паўстанцы і ў нашых краёх. Але не тутэйшыя, а прышлыя. І ў нас усё было, як раней. Толькі шыбеніцы на кірмашовым пляцы ў Пагосце казалі, што паўстанне яшчэ ідзе.

Гэта вельмі жудасныя шыбеніцы. Я бачыла іх у мінулую восень, калі стала вучыцца ў павятовай вучэльні. Але павучылася толькі тры месяцы, нават меней. Бо ўжо да калядаў вучэльню зачынілі. І я вярнулася ў Любішу, стала зноў дапамагаць бабулі на гаспадарцы. Тады мне Казя Гахтавая й распявала, што ў лесе збіраецца абоз. Ачольваў гэтае айцец Аболя. Ён вельмі шанаваў тату, і таму нейк адразу я стала ягонай памочніцай.

Хутка пра абоз уведала ўся вёска, і шмат хто дапамагаў нам.

Мы парабілі схованкі, выкапалі вунь тыя зямлянкі. Цягнулі сюды патроху ўсяго, што магло прыдасціся. А як збіраліся тут людзі, тады болей гаварылі. Пра паўстанне і пра палітыку. Айцец Аболя чытаў нам забароненыя афішкі.

Аднойчы ў вёску зноў прыйшлі паўстанцы. Зноў палякі. І калі іхні завадатар адчытаў на пляцы маніхвэст, дык пасля нехта з мужчын нават памкнуўся быў за імі, з іхнім атрадам. Але ўсе адразу ж і павярталіся. Пасля гэтага ў лесе была доўгая размова. Пыталіся ў айца Аболі, чаму ён не сказаў ісці ў паўстанне. А ксёндз пачакаў, калі мужчыны супакояцца, і прамовіў:

— Наш час яшчэ не прыйшоў. Яшчэ няма нашага паўстання.

— Як гэта? — ускіпеў тады Лапуста.—Мы тут адно гаворым, каб адабраць у Кані зямлю, дык і яны пра тое: каб адабраць і падзяліць.

Айцец Аболя нібы ведаў, што ў яго пра гэта будуць пытацца.

— Усё гэта так, — сказаў. — Але й не так. Зямля цяпер толькі прыгода. Ім папраўдзе не трэба зямля для нас. Ім трэба, каб мы адабралі дзеля іх у Расеі Польшчу. За гэта яны й раздаюць нам не валокі, а аблокі на небе. — Так ён і сказаў. — Што ж ты будзеш з той зямлёй рабіць, з Каневай? Хто табе дасць вольна ўрабляць яе? Цар?

— Дык супроць жа цара і паўстанне,— сказаў Гахт.

— Супроць. Але як толькі ты заб'еш гэтага цара, то ж палякі ўмэнт паставяць у Любішы новага пана. Дарма што свайго. А то ім і Каня прыдасца. Дарма што будзе Польшча, а не Расея. Вось бы і паваявалі...

Праўду казаў наш святар. Толькі не ўсе яму верылі. Некаторыя больш верылі гэтым палякам. Лапуста ўсё пытаўся:

— Няўжо яны хлусяць?

А ксёндз на тое:

— Ці яны, ці іхнія завадатары ў Варшаве,— не ведаю.

— Але дзе ж тады праўда, ойча? — пытаўся Лапуста.— Ты разумнейшы за нас, вучаны. Дык чаго ты нас то запаліш, то згасіш?

— Калі гартуюць мяча, з ім робяць гэтаксама, — сказаў святар. — То запаляць, то згасяць. Каб цвярдзейшая была сталь. А цяпер тая сталь яшчэ сырая. І паўстанне хутка скончыцца само. Бо каб паўставаць за зямлю ды за волю, трэба народ. А цяпер народа яшчэ няма. Шмат нязгоды ў людзях. Ёсць каталікі, якія клічуць сябе палякамі, і ёсць праваслаўныя, якія называюцца расейцамі. Але ж ёсць ужо й такія, як мы. Мы ўжо не гукаемся палякамі ці расейцамі, бо мы беларусы. Гэта відно з гаворкі, з нашае мовы...

Кожнага разу доўга цягнуліся нашыя гутаркі, аж да рання. Яшчэ колькі разоў прыходзілі ў вёску палякі, але нашыя мужчыны ўжо не скраналіся з места.

А зусім нядаўна былі чуткі, што з'явіліся свае паўстанцы, што дайшлі яны толькі да Смехаўя, і тамтэйшыя перасяленцы-бурлакі аддалі іх паліцыі. Кажуць, што гэта быў зусім маленькі атрад, болей з косамі. Многія былі параненыя. Іхні камандзер чытаў маніхвэст па-беларуску. А яшчэ кажуць, што гэта былі хлопцы з нашае павятовае вучэльні...

Вось жа пасля гэтых пагалоскаў айцец Аболя і сказаў, што атрадаў больш не будзе. І што прыйшла пара для нас.

Божа, вы чуеце, як галёкае пан Каня! Ужо колькі месяцаў жыўцом гніе ў нейкай хваробе. Як лёг, дык і нішто сабе стаў панок. А раней жа як лютаваў, ёй-ёй! Ды яшчэ з усялякімі дурамесамі. Было, што сярод ночы войт зганяў людзей да яго на падворак. Хто ўпарціўся, таго — бізуном. Тады ў двары ўсім раздавалі таркі, міскі, чапёткі — усё, што бразгае. А пан крычаў, што дзеля дабра Велькапольскі ён усіх нас зробіць праўдзівымі патрыётамі і выб'е тутэйшы дух. А тады прымушаў з крыкамі ды шумам хадзіць па парку вакол сядзібы, як на загонах. А сам — на ганку, у аксамітным чугаі і вочы, як ў ката, агнямі гараць. Гэта ў яго называлася «выгоняць з дому д'ябла-бялорусіна». Во як было за мову...

Таму й баяліся яго людзі найбольш па начах. Дый цяперака як удзень, дык нібы й няма нашага пана. І зноў па начах чуваць ягоныя крыкі. Ды мазі, што яму лекар ад хваробы дае, так смярдзяць, што не тое да сядзібы, да парку падысці гідка.

Людзі кажуць, што зусім мала засталося пану жыць. І тады пойдзе аб спадчыну. Аболю, пэўне ж, нічога не дастанецца, бо ён хоць і сын панаў, але няшлюбны, і Каню моцна не падабаецца, што пра гэта ўсе ведаюць. Таму не любіць ён Аболю вельмі. І высылаў яго на розныя вучобы: перш — у гімназію, а тады — у семінарыю. Хацеў, каб пасля адправілі Аболю як найдалей ад дому. Толькі ж вярнуўся святар пасля семінарыі ў Любішу, атрымаў парахвію. А стары Каня нават не пусціў яго да сябе. Толькі праз дзверы крыкнуў: «Не могэн вець, кто естэсь».

Чакайце хвілінку, я назбіраю шышак, каб было трошкі цяплей. Вялікі агонь разводзіць нельга, бо па начах у лесе ездзяць казакі, а мне адной іх не ўваяваць...

Цяперака, як памрэ Каня, панам будзе другі ягоны сын — Міхал. Гэты ўжо раз-пораз зазірае да бацькі. Носам круціць, а зазірае. Чуе, што ягоны будзе маёнтак і ўся Любіша. Гэтак кажа мая баба Анэля. А яшчэ яна кажа, што як запане малады Каня, дык яшчэ дурнейшы будзе за старога.

Але зараз Міхал зусім нязлы. Толькі таемны нейкі, незразумелы.

Колькі разоў прыходзіў ён сюды, у лес. Часам таксама гаварыў і спрачаўся. Усё пярэчыў Аболю. Нават казаў, што кожнаму богам прызначана: панаваць ці на пана рабіць. Але ж казаў гэтае нібы жартам, і ўсе думалі, што блазнуе. Ніхто з ім не пагаджаўся, але ён прыходзіў зноў.

А на людзях Міхал казаў зусім іншае. Казаў, што трэба паўставаць супроць паноў за зямлю, за волю і рознае яшчэ. І таксама казаў гэтае жартам. Вось жа ніхто яму і не верыў.

Дзіўны ён нейкі. А брат яго шкадаваў, таму й дазваляў прыходзіць у лес, цярпеў гэткія збыткі. Бо сядзіць Міхал адзін у бацькавым паляўнічым доме за шляхам, далёка ад людзей, ад якое работы...

А ўчора прыязджаў у Любішу вайсковы начальнік. На пляцы ля касцёла сабралася ўся вёска. Начальнік закрычаў, што ведае пра абоз. Людзі адразу сталі перагаворвацца, што гэта Міхал яму сказаў. Усе адразу падумалі на Міхала. А пасля начальнік загадаў, каб усе абознікі зараз жа назваліся й пайшлі за ім. А калі не пойдуць, дык нашле на нас карны атрад. Ніхто з нашых мужчын на тое не азваўся, бо не паверылі ў карнікаў. Мала чым можа палохаць начальнік!

Толькі айцец Аболя сказаў, што гэта праўда, і

сказаў мне згукаць усіх абознікаў у лес, каб з раніцы можна было выступіць. Вось жа набраўся адзін толькі Ясь.

Калісь, я яшчэ зусім малая была, Яся Кончыца мелі за лепшага на ўвесь павет спевака. Прыязджалі нават чужыя паны, каб паслухаць, як спявае наш Ясь. Пасядуць у доме ў старога Кані за стол і слухаюць. А Ясь жа завядзе-завядзе «Шарлоту» ці «Па полі Белаполь», дык сам ажно вочы закоціць, і іншыя млеюць ад такое прыгоды. Толькі адзін важны госць, губернатар Манькін, не ўпадабаў Ясевых спеваў. Ён загадаў спяваць ісцінна рускіх песень. А Ясь усё не ўмею ды не ўмею, і цягнуў свае. Тады стары Каня, каб дагадзіць госцю, вырашыў пакараць Кончыца. Ён загадаў дворным трымаць Яся, а сам наліў яму ў рот воцату. Госць жа на тое задаволена сказаў: «Это чтоб лучшэ кгекал».

Ледзьве адхадзілі тады Яся. І Ясь зацяўся. Ніхто больш не чуў яговых спеваў. Дый простага слова з яго не выцягнеш. Носіць гарун сваю крыўду, не можа ані дараваць, ані забыцца на тое.

Ці ж вы слухаеце мяне?..

**3.**

На тое каб і хацеў, не забудзешся.

Толькі цяпер мне ёсць і што іншае помніць. Хоць бы й Дануту Вяхотку. Нішто сабе была кабета, ладная. Ды каторыя яе ведалі, інакш як посцілкай не называлі. Жыла яна на дальнім канцы Смехаўя. Гэта Макей, смехаўёўскі парабак, падказаў мне, што носіць баба пранцы. Сама не хварэе, а як з каторым мужчынам пакотаецца, дык той пасля зазнае смяротных пакутаў.

Запомніў я гэтае і стаў чакаць. А неяк, калі ўвечары войт сказаў, што заўтра ўсе пойдуць у лес, каб заганяць дзічыну пад панскія ловы, я і паняў, што настала пара мне «кгекаць».

Пад раніцу быў у хаце тае лярвы. Яна мала што не пярэчыла, нат не спыталася, куды і што. Я адно сказаў, каб прыбралася, бо гідка было глядзець на ейныя рызманы.

Лічы, праз усю дарогу памыкалася Вяхотка запыніць мяне. А на прыканцы ўжо проста бурчала сабе пад нос: маўляў, як выцягнуў, дык трэба і справу рабіць. Так і датэпалі мы да Любішы.

У лесе чуваць былі загоншчыкі і стрэлы. Тады я пакінуў Вяхотку пад Жоўтай гарой, якраз на беразе ракі, а сам пайшоў па Каню.

Стары пан — зусім кволы чалавек. Як той певень. Адно, што надта гарласты ды ганарлівы. Сядзеў ён на сваім пятаку, на бугры ў гарэшніку. Пільнаваў звера ўнізе. Тут яму й бяспечна, і выгодна. Усё адно як са страхі на падворак глядзець. А ззаду, па строме, сюды можа падкрасціся толькі рысь або чалавек.

Што там казаць, як я скруціў яго, вочы завязаў і рот. А каб не так звіваўся, вытнуў раз-другі па вантробе. Ураз яму дых заняло. Пэўне падумаў, што напалі ліхадзеі і цяпер заб'юць. Папраўдзе, дык я й сам быў так падумаў. Ды толькі забіць — яно не пакараць. Сваю душу супакоіш, а трэ ж, каб і яму дасталося.

Але, прынёс я старога Каню ў чараты пад Жоўтай гарой. Кінуў назем. А побач паклаў рубель грошай. І паказаў Вяхотцы, каб рабіла ды каб маўчала.

Пэўне ж і зрабіла, і змаўчала. Бо гэтак енчыць цяпер стары Каня. Канае й не ведае, хто яго гэтак пакрыўдзіў. І нічога, па ўсім, не можа зрабіць сваімі мазямі лекар з павету. Ды што ён можа! Яму ж ідзе толькі аб панскія грошы. Як долей будзе лячыць, дык болей пан выкладзе грошай. І чым горай будзе пану — тым больш атрымае гэты «стары закон». Вось і не хоча ён пана вылечваць.

Пасля тае прыгоды я ўсё мерыўся пусціць пану пеўня пад страху. Учора яшчэ разважаў пра гэта. Ды зараз думаю інакш. Што ўжо той пан! Хутка сканае. Сам акалее, без майго. А вось малады Каня, Міхал, гэты, па ўсім, куды люцейшы панок будзе. Гэты выградак пераплюне яшчэ свайго гнілога бацьку. Ці ж не ён сказаў у павеце пра наш абоз? І што ж, пасля гэтага будзе як ні ў чым гойсаць на вачах у людзей?

Надумаўшы гэтае, скруціў я з бяросты паходню і пакінуў Гэльку чакаць святара адну. Сам падаўся за шлях, да панскае хаты, дзе сядзіць малады Каня.

Яшчэ надта карцела мне звесці ад Міхала двух добрых коняў. Тады, няхай замала наш атрад, трэ было б пастарацца, каб дагнаць нас.

Так я й пайшоў. А малая Старачынская засталася пры зброі. Дасць бог, не патрапяць на яе казакі. Бо цяпер і яна за байца. Наколькі стане таго ваярства...

Ужо праз якую гадзіну я выводзіў з Міхалавай стайні двух коняў. Абодва ладныя, белыя, завадовай косці. Такі самы конь быў у Аболі.

Паставіў я іх недалёка ў прылеску, у арабінавым гайку. А сам з паходняю абабег дом. Патыцкаў агнём у падстрэшша і рушыў назад. Тады прылёг, затаіўся ў купавінах, каб паглядзець.

Дзіўна як узгарэлася тая хата! Нейк чыста, зусім без дыму. Нават прыгожа. Агонь працяў яе наскрозь, а яна замерла, быццам жывая. Усё адно як той заяц на крызе: зіркае на бакі ды не можа ўцяміць, скуль небяспека.

І тады я ўчуў крык. Пэўне ж, не Міхалаў. Упалі вярэі. Вонкі выскачыла кабета. З распатланымі космамі, без кашулі. Яна крыху адбегла ад дома ды, як зачараваная, пазірала на пажар. Навокал было светла, нібы ўдзень.

Следам выбег малады Каня. Трымаў пад рукой сядло і збрую. І тут жа кінуўся ў хлеў, па коні. А там ужо на ўсю шугала полымя.

Назад ён выйшаў без спешкі, увесь чорны ад сопату і без сядла. Толькі трымаў даўжэзную пугу ў руцэ. Тады нейк хістка пайшоў да кабеты. Толькі цяпер я пазнаў Дануту Вяхотку.

Яна кідалася да Міхала, а ён сцябаў яе па голым целе. Яна ўжо ўпала, а ён стаў біць яе нагамі. Тады нешта штурхнула мяне з мае схованкі і я, не стрываўшы, пабег да сядзібы.

Каня ўгледзеў мяне, адкінуў пугу і адышоўся ад кабеты. А я ўжо бачыў, як ён усміхаецца, і яшчэ бачыў, што за пасам у яго тырчаць два чорныя пісталеты.

— Здароў, Кончыц, — сказаў ён зусім прыветна. Быццам нічога тут цяпер і не было. — Гэта ты падпаліў маю сядзібу?

Затым ён выцягнуў пісталеты і казаў далей:

— Цяпер вядзі назад мае коні.

Ён стрэліў мне паўз галаву, ды я не спалохаўся. Толькі заняло мову ад крыўды. Я не мог гаварыць і проста рушыў на яго.

Тады ён стрэліў другі раз, у нагу. Ды так моцна не хацеў я ўстаць перад ім на калені, што ўстояў. Ён жа нібы наўмысля марудзіў, каб я усё ж укленчыў.

— Бачу, жарты скончыліся, грамадзянін інсургент, — сказаў Каня. — Ды адзін мой знаёмы ксёндз кажа, што цяпер і пачнецца паўстанне, — і ён стрэліў у другую нагу. — Пачынай! Грамадзянін смярдзючы хлоп! Усё тваё паўстанне ў тым, каб стаяць перад панам на каленях. Хочацца табе гэтага ці не.

Сказаўшы, ён павярнуўся і пайшоў да шляху. Што да мяне, дык не так балелі тые ногі, як зайшлося ад абразы сэрца.

Я падпоўз да Вяхоткі. Яна ўжо не дыхала. Дагараў паляўнічы дом, і вакол зноў рабілася цёмна. Але ўжо шарэла на раніцу неба.

Агледзеўшы свае калені, я ледзьве ўзбіўся на каня. Трэба было спяшацца, бо пачынаўся світанак.

**4.**

Але за вакном было яшчэ зусім цёмна, калі я скончыў свае зборы. Склаў сак, прынёс з ёўні старую паляўнічую стрэльбу. І ўжо збіраўся быў ісці па каня, калі раптам нехта грукнуў у дзверы.

Адчыніўшы, я ўбачыў Міхала. Ён быў расправнуты, кашуля ўробленая ў кроў. Пазіраў здарожана і па-вар'яцку вясёла.

— Добрай раніцы, браток, — сказаў Міхал і рушыў у святліцу. Сеў каля стала. — Ці ўсё гатова да паўстання?

— Як бачыш.

— Бачу: стрэльба, набоі, правізія. — Ён старанна агледзеў пакой. — А ў саку, мусіць, маніхвэст? Свая «Мужыцкая праўда»... У кожнага яна, выходзіць, свая. Нават, калі мужыцкая.

— Не разумею цябе, Міхале.

— Не разумееш, бо ты светлая, браток, душа. А светлая — усё адно як сляпая. Бяльматая.

— Зноў пачынаеш выдурвацца? А я, папраўдзе, думаў, што і ты пойдзеш...

— Думаў!.. Можа, калісь і я так падумаў. Але не цяпер. Бо не пайшлі за табой мужычкі, браток. Усе ў вёсцы спяць. Засталіся ў цябе адно ідэалы. Ідэаламі не паваюеш.

— Скуль ведаеш, што не пайшлі?

— Ведаю. Адна толькі Старачынская ў лес падалася. З гэтай назмагаешся... Астатнія спяць. Клопату ў іх багата!

— Чаго тады прыйшоў? Блюзнерыць?

— Дык я ж і кажу, што ідэаламі не паваюеш.

Міхал выклаў на стол два пісталеты, нібы пацвярджэнне сваіх словаў. Але я зноў бачыў у ім толькі ворага.

Гэтак з маленства: мы рабіліся то самымі заўзятымі ворагамі, то — раптам — сябрамі. Праўда, з гадамі трэ было ставаць чымкольвечы адным. І я знайшоў свой шлях, дзеля якога ўжо варта было і ахвяраваць сабой. А Міхал усё вагаўся, то бліжэй быў, то далей.

Між тым, ён працягваў:

— За хлеб ваявалі, ды кажаш, здрадзіў хлеб. Не ўсталі за хлеб мужыкі. І за мову не ўсталі. Шляхта не ўстала. Адзін ты. Толькі, ж як ведаеш, ваяванне тваё скончыцца праз якую гадзіну, калі прыбудзе сюды гаспадзін вайсковы начальнік з казакамі, і твой абоз адправіцца прыстанкамі ў Сібір.

— Відаць, не без тваёй дапамогі. Папраўдзе, я стараўся не думаць гэтак. Няхай справу прызнаў нявартаю, няхай у абоз не пайшоў, але каб данасіць...

— Але, відаць, данёс. — Ён устаў і падышоў да акна, стаў выглядаць нечага. — Можа, таму й данёс, што справу прызнаю вартаю. Гэтак, браток. Толькі не ведаю, ці спазніўся ты, ці наадварот, паспяшаўся, але ж выступіў не ў час. Нават недарэчна неяк. Мо таму й данёс ці прагаварыўся недзе. Што асуджанаму яшчэ адзін прысуд!

Міхал павярнуўся ад вакна і пазіраў нейк паўз мяне.

— А яшчэ таму, што быў пазайздросціў табе, браток. Гэта пасля таго, як ты не пайшоў за паўстаннем. Я ж вельмі добра зразумеў цябе, браток. Што нам тыя інсургенты! Усе гэтыя летуценнікі-мрояры! Паселі на воз, а каня няма. Гэтак і матлялі ножкамі, думаючы, што едуць... А ты не сеў. Ты ведаў, што найперш каня трэба. І я захапіўся тваімі развагамі пра тое, што марна крычаць пра волю і хлеб, пакуль няма народа. І я зайздросціў тваёй ідэі зляпіць гэты народ. Апляванай тутэйшай гаворкай зляпіць.— Ён піў ваду з кубка, які ўзяў на падваконні і казаў далей.— А зайздрасць, ведаеш, добрага не робіць.

— Што ж ты надумаў, дабрадзею?

— А тое, што позна цяпер штокольвечы думаць. Позна. Неўзабаве тут будуць салдаты, і я, мусіць, сам пакажу ім кожнага хлопа, які прыходзіў да цябе ў лес. Позна браток. Нічога ўжо не паправіш, не зменіш. Яшчэ ўчора я вагаўся, я быў іншы. І ты нямала панасміхаўся з мяне. А гэтае начы парабак Кончыц спаліў мой дом і выкраў мае коні. Я прымусіў паганага хлопа ўстаць на калені і цалаваць зямлю перад мною. А цяпер ён паўзе па шляху сюды, каб быць рассечаным казацкай шабляй.

Вочы ў Міхала гарэлі. І калі ён рашуча ступіў да стала, да сваіх пісталетаў, я загарадзіў яму шлях стрэльбай. Гэта здзівіла яго. Ён нават збялеў.

— Ого!.. Ды ты й напраўду сляпы, браток... Што ж, пацешся. А я тым часам паўтару, што яшчэ ўчора вагаўся. Але гэтай ноччу аддаў богу душу мой і твой смярдзючы ойцец. Так што апусці стрэльбу. Праўда, недарэчы. У тастаманце ён адпісаў усё мне, а цябе не згадаў нават словам.

Згледзеўшы, што я не рушу з месца, Міхал адступіў у кут.

— Але ведаеш, браток, дзіўная рэч! Я, стаўшы цяпер бязбедным панам, ішоў сюды, да мяцежніка, каб папярэдзіць і ўратаваць цябе. Я не забыўся, што ты мой брат...

— Свіння табе брат. Выйдзі з хаты.

Міхал усё блюзнерыў. Нічога святога, нават нічога паўнага не было ў ім, ніколі.

Ён згодна павярнуўся да дзвярэй і выйшаў на ганак. Я ж ішоў за ім з настаўленай стрэльбай.

— Калі ласка, браток, — казаў Міхал. — Калі ласка... Цікавая думка прыйшла мне зараз у галаву. Твае абознікі не пойдуць прыстанкамі. Я павешу іх тут, у Любішы, пад вокнамі твайго касцёла. А ты на ўсё гэта будзеш пазіраць. Проста з амбона. Ты будзеш... Не мог жа я выдаць начальніку собскага брата! Я нават сказаў яму, што ты дапамагаў мне выявіць шайку. Пасля гэтага яны не крануць цябе...

— Я не веру табе. Але ты мог зрабіць гэта.

— Дзякуй, браток. Вось і абмяняліся. Я табе — жыццё, а ты мне... не верыш.

Міхал ужо ішоў па двары, а я лёгка папіхваў яго руляю ў плечы, бо ён гэтак жа лёгка, нібы жартам, упарціўся.

— Гэх, даўна ўжо старыя ў Любішы крачуць, што новы пан будзе люцейшы за старога. Толькі павер, браток, яны не ведаюць, што гэта, калі сапраўды страшна. Які страх быў у старым Каню? Выганяць з дому бялорусіна?..

Гэтак мы выйшлі з падворка ў поле. Пад нагамі слізгала падмерзлая зямля, з якой толькі-толькі сышоў снег

— Ведаеш, браток,— развважаў Міхал у такт крокам,— а я ўжо пачуваюся панам. Праўда. Мусіць, кожны чалавек імкнецца панаваць. Хто над хамам, хто над быдлам, а хто над сабой. Вось я й думаю, дзеля чаго ты збіраў у лесе абоз... Урэшце, і ксёндз — гэта пан. Праз хлусню. І ўсе астатнія паны — праз хлусню. Што такое гэтыя тытулы, пасады, спадчыннасць?.. Чыстае ашуканства. Дый я такі самы хлуслівы пан. Толькі цяпер гэта ўжо ўсё адно.

За полем, дзе пачынаўся край балота, Міхал спыніўся і павярнуўся да мяне.

— Цяпер гэта без розніцы. Страляй, браток. *Адсюль не пачуюць. Страляй, бо я зраблю ў Любішы страшную разню. Гэта конча.*

—Пачакай,—сказаў я, ладкуючыся да стрэльбы.— Ты яшчэ не паслухаў выроку.

Мусіць, я неяк пашкодзіў яму, бо ён адразу рашуча сеў на купіну.

— Ты не памрэш як герой. Як змагар за сваё новае стодзіва, расейскага цара. Не спадзявайся. Бо такі ідэал не спародзіць героя. І як злачынца ты не памрэш, і як здраднік. Бо ў рэшце рэшт бог усё дарue на гэтым свеце. Любое злачынства і подласць. Я ведаю, што не ты быў падноскам у начальніка. На гэта трэба таксама мець за душой хоць нешта, хоць бы на шэляг мярзоты. Ты не памрэш нават як зняверавы скептык, бо ўжо гатовы служыць манархіі...

Было цяжка казаць, і я марудзіў.

— Гэта дзіўны вырок, пробашч! — сказаў Міхал. — Дагаворвай, калі пачаў: хто я, цікава?

— Няма чаго дагаворваць. Ты й не жыў, не рабіў нічога, не замінаў нікому й не дапамагаў. Цябе не будзе й надалей. Падыміся з зямлі.

Ён устаў.

— Цябе не будзе, як хлуду, які прыбралі з дарогі і кінулі ў агонь.

І я стрэліў. Міхал кульгануў моўчкі і заваліўся на бок...

Калі я вярнуўся на падворак, там ужо круціліся коннікі. Між іх я пазнаў вайсковага начальніка. Быў і яшчэ адзін, зусім малады унтэр-афіцэрык з хлысцікам.

Я пайшоў міма іх, у хлеў, і вывеў адтуль каня.

— Где твой брат? — запытаўся начальнік з насмешкай.

— Я яму не вартаўнік.

З чагосьці яны тут смяяліся, а можа, прывезлі гэты смех з сабою з дарогі ці адкуль далей.

—А почему ты с винтовкой? — зноў спытаў начальнік.

— Збіраюся ў атрад.

Яны зноў зарагаталі.

— Но ведь мятеж подавлен, Калиновский повешен, — не сунімаўся начальнік.—И потом, как понимать, что ты, ксёндз, слуга божий, сидел тут тихо, пока всё кончилось, а теперь, что же, спохватился?

— Прыйшоў, відаць, час і на ціхіх, калі гучных павесілі.

— Так ведь повесим и тихих. И тех, что после тихих, тоже повесим.

**(Заканчэнне на стар. 10—11).**

ТЭАТР

Лілія БРАНДАБОЎСКАЯ

# «...Як дарагі раяль», або Арыя спевака за сцэнай

## З БЛАКНОТА РЭЦЭНЗЕНТА

МЫ ГАВОРЫМ: талент заўсёды праб'еццa. Паслужлівая памяць у момант падкіне процьму імёнаў з усіх часоў і народаў — тых, хто, нягледзячы на перашкоды, прабіўся-такі, прарос, як тая кветачка, што ўспучвае асфальт, прадзіраючыся да святла. Толькі ў гэты час забываемся, што кветачка пасля ўсіх выпрабаванняў выглядае надта ўжо кволай, няма ў ёй упэўненага характва, ад нараджэння ўласцівага яе дагледжаным сёстрам. Якая там упэўненасць, калі столькі сіл пайшло на барацьбу за існаванне!

Вось так і талент, ад якога ў мастацтве мы чакаем адкрыцця, гармоніі, моманту ісціны і немітуслівага дакранання да найбалючых, «праклятых» пытанняў: калі ўсе сілы і намаганні трацяцца на тое, каб «прабіцца» і «ўтрымацца», што застаецца на адкрыцці, моманты ісціны ці пытанні?..

**Вядомы рэжысёр і педагог Анатоль Васільеў заўважыў: неажыццёўленасць — трагедыя сучаснага мастака. Васільеў — прадстаўнік усё ж такі менш залежнай прафесіі, ён можа сабраць групу аднадумцаў (і збірае!), пачаць «з чыстага аркуша» (і пачынае!), знайсці падвал (гэта куды больш складана, але знаходзіць!) і — ствараць, узводзіць Тэатр.**

**А як быць артысту? Яму ж таксама патрэбен тэатр (ці сама меней — падвал), п'еса, аднадумцы і — рэжысёр, які б даверыў яму месца на сцэне, ролі, партнёра. Інача нічога не адбудзецца...**

**...Канстанцін Мікалаевіч Саннікаў сваіх студэнтаў стараўся як мага раней прывесці ў тэатр і ўвесці ў спектаклі, каб яны «абжыліся» на сцэне. І надалей сачыў, каб ігралі як мага больш. Сёння яго вучні — гонар купалаўскага тэатра, яго «станавы хрыбет». Час быў іншы? Тэатр быў іншы? А чалавек, яго псіхалогія, а мастак, яго прага выказаць сябе? І яны —змяніліся? Чаму ж тады так пакутуюць артысты ад творчых прастояў? Зарабіць жа можна і па-за тэатрам... Чаму ж тады славутая актрыса скардзіцца, што ёй сорамна атрымліваць сваю вялікую (у параўнанні з маладымі, вядома) зарплату, бо яна амаль што не выходзіць на сцэну?! Чаму хапаюцца за любую магчымасць — збіраюцца ў групу на чале з малавядомым рэжысёрам, у групу, перспектывы якой вельмі неакрэсленыя, — толькі б іграць! Іграць! Іграць!..**

КОЖНЫМ летам бываючы на дыпломных спектаклях Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, бачу, як зацікаўлена і ўважліва глядзяць на сцэну галоўныя рэжысёры, часцей — дырэктары тэатраў. І ўсе разумеюць, што лёс выпускнікоў — не ў тым, якую адзнаку яму паставіць дзяржаўная экзаменацыйная камісія, а — як, наколькі спадабаецца ён «купцам». Заўважу тое, што падаецца дзіўным: не кожны год і не ў поўным складзе бываюць на дыпломных спектаклях галоўныя ўсіх тэатраў рэспублікі. Маўляў, гастролі, клопаты і да т. п. Можна зразумець. І ў той жа час цяжка зразумець: каму можа даручыць такую адказную справу як запрашэнне маладога артыста ў тэатр галоўны рэжысёр?!

Але хто калі чуў гэта слова—«запрасілі» — у дачыненні да выпускнікоў? «Узялі». «Запрасілі» — тут ужо трэба мець на ўвазе і пэўныя прапановы, абяцанні. А «ўзялі» — значыцца, скажы дзякуй, і ўсё на тым!..

Не хачу сцвярджаць, што толькі так бывае, але ж з кожным годам, памалу ды пакрысе неяк каразіруе жалезнае правіла, паводле якога галоўны прыдзірліва выбіралі артыстаў у тэатр, ды не проста «ў запас» (некаторыя гаспадарнікі так любяць: набыць каштоўнае абсталяванне — і няхай стаіць да часу, нічога, што ржавее), а з прыцэлам на ролю ў новым сезоне, няхай і невялічкую, але —па здольнасцях. Часцей бяруць артыста не па неабходнасці, а неяк так — няхай, маўляў, будзе, месца не прасядзіць... Ці — не бяруць.

**Памятаю, як колькі гадоў назад ўсе гледачы на дзяржаўных экзаменах у адзін голас запэўнівалі: вось гэтай дзяўчынцы самім лёсам наканавана быць на сцэне купалаўскага—фактура, мова, тэмперамент нечым няўлоўна нагадваюць Галіну Макараву (разумею, што такое падабенства зусім не «гарантыя якасці», але проста хачу нагадаць тую дзяўчынку, бо сёння яе ў тэатры не сустрэнеш — ні ў купалаўскім, ні ў коласаўскім; для даведкі — артыстка плённа працуе ў Белдзяржфілармоніі, не бядуе, але для тэатра яна прапала... Хто ведае, як бы ўсё адбылося? Можа, і яна сёння сядзела б склаўшы рукі і кляла лёс. А можа, і рэпеціравала б Альжбэту?! Чаму ж яе не «запрасілі» ці не «ўзялі» ў тэатр? Ці ж на ролі нацыянальнага рэпертуару ўжо выстраілася чарга маладых артыстак адна за адну лепшая?!**

Магу атрымаць у адказ, што ў галоўнага рэжысёра А., Б. ці В. свае меркаванні аб перспектывах фарміравання трупы, якіх нам не зразумець. І гэта, вядома, ягонае святое права мастака. Згодна. Але чаму ў тэатрах такое цяжкое становішча з моладдзю? Фармальна — усе пасады занятыя, а на самай справе? Кажуць, што калі ў тэатры можна размеркаваць «Гора ад розуму» — трупа ўкамплектаваная. Ну і пачуеш у адказ: «Размяркуем. Паводле штатнага раскладу: А. — Чацкі, Б. — Фамусаў, В.—Соф'я... Прабачце, В. — мужчына? Тады В. — Малчалін, а Г. — Соф'я... Хто там яшчэ?» Незамянімых — няма!..

А ўсур'ёз? Кожны з артыстаў варты цікавай ролі, але ж і кожная роля вартая свайго і толькі свайго выканаўцы. А як няпроста яго знайсці, гэтага свайго: ці толькі таму знік са сцэны Рускага тэатра «Гамлет», што з'ехаў выканаўца галоўнай ролі? А можа, з цягам часу мы зразумеем, што не ў кожным тэатры і не ў любы час ёсць Гамлет, і няма чаго саромецца: няма, значыць — няма... Прызначыць Гамлетам немагчыма.

Але ж атрымліваецца дзіўна: няма ў тэатры Гамлета, няма Тарцюфа, няма Рамэа — тым не менш ставяць «Гамлета», ставяць «Тарцюфа»... А можа, і ёсць яны — Тарцюф і Гамлет— але іх не «ўбачылі»?

«А ТЫМ ЧАСАМ...», як пісалася ў цітрах нямога кіно, — а тым самым часам набіраюць — не запрашаюць! — маладых артыстаў у тэатр. Набіраюць не на ролю, не на перспектыву. Патрэбны свежыя тварыкі, гнуткія фігуркі, доўгія ногі — хай сабе скачуць... Праз нейкі час пацяжэе фігура, вочкі паблякнуць, стаміўшыся «трымаць усмешку», зморшчынкамі расчараванняў перакрэсліцца тварык... Нічога, прыйдуць новыя, новенькія, навюткія!..

І вось у нашага тэатральнага лесу няма падлеска, ніхто нікому не «наступае на пяты» і няма каму «перадаваць эстафету». Таленты ёсць, здольныя ёсць, але няма, як кажуць, «напрамку»... Балюча вымаўляць гэтыя словы, тым больш, што тэатр—справа жывая, і пакаленне на пакаленне не прыходзіцца, не кожны год нараджаюцца таленты, многія з тых, хто сёння не «наступае на пяты» сталым талентам, дарыў і дорыць нам імгненні тэатральнай радасці. І ўсё ж трэба прызнацца сумленна: у тэатры бывае і вельмі горка. І не толькі таму, што прырода адпачывае пасля таго, як падаравала нам багата сузор'я з непаўторнымі індывідуальнасцямі. (Не вельмі ж яна адпачывала, калі ў купалаўскім тэатры ўслед кагорце вялікіх купалаўцаў на сцэну ўздымаліся новыя таленты. Магу пералічваць імёны — кожны раз прыходзілі не адзінкі — група, падмацаванне, сапернікі! Тое ж можна сказаць і пра коласаўскі тэатр, і пра рускі...).

Не бяруся аналізаваць прычыны, якія спарадзілі ў тэатры сум. Сумна і ў новым Маладзёжным (вось парадокс!), і ў ТЮГу — сумна і тлумна. У нашых паважаных тэатрах, за якія так душа баліць, рэдка адчуваеш вялікае тэатральнае ўзрушэнне. Прычын вельмі многа — і гістарычных, і сацыяльных, і грамадскіх, і ўнутрытэатральных. Не вазьмуся таксама штучна вылучаць нейкую адну прычыну. Але не дае спакою думка, што сённяшні агульны стан тэатра мае не толькі «аб'ектыўныя прычыны», але складаецца і з асабістай творчай незадаволенасці, нявыяўленасці, нерэалізаванасці. «Душа мая — як дарагі раяль, ключ ад якога згублены», —скардзілася гераіня чэхаўскай п'есы. Мы недаатрымалі тэатральных уражанняў. Мы не бачылі лепшых нашых артыстаў у поўным іх характве, а ў іх магчымасцях, у іх прыродзе была закладзена такая вялікая выбуховая сіла! Лілія Давідовіч, Марыя Захарэвіч — дзе тыя вялікія пачуцці і думкі, якія маглі б прагучаць іх галасам?.. Ці дастаткова выявілася Галіна Талкачова? Бяру на сябе смеласць сцвярджаць, што і Віктара Тарасава ў родным тэатры абышлі ролі, у якіх ён шмат мог сказаць «гораду і свету». Пяць-шэсць роляў з класікі — ці для такога артыста дастаткова?

СПЯШАЮСЯ да другіх — да тых, хто, маючы поўнае маральнае права быць на сцэне, на доўгія гады затрымаўся на перыферыі тэатральных інтарэсаў. Назаву трох-чатырох: іх лёс тыповы.

Як пачынала Ніна Піскарова, якую будучыню ёй абяцалі!.. Соня ў «Дзядзьку Вані», незаслужана абыдзеная шчасцем, —такая засяроджаная, стрыманая, паглыбленая ў свой складаны духоўны свет, гарманічная, адухоўленая і нязломная дзяўчынка!.. Ліка ў «Маім бедным Мараце» — сама жаноцкасць, чароўнасць, мяккасць і стойкасць... Што ж павінна было здарыцца ў тэатры, каб мы гадамі не заўважалі гэтую актрысу — быццам ёсць, а быццам і няма яе, гледачы маглі падумаць, што яна ўвогуле пайшла з тэатра. Але актрыса была, і ролі мела, аднак патэнцыял Піскаравай тэатр скарыстоўваў нават не на чвэрць... Як добра, што аднойчы яна ўзяла справу ў свае рукі — літаральна: пераклала на беларускую мову п'есу Ж. Както, паставіла яе на малой сцэне (спектакль ідзе пры аншлагах!) і сама іграе галоўную ролю. Моцная, у росквіце жаноцкай прывабнасці, прафесійна сталая актрыса... Як ёй удалося захаваць сябе? Моцны характар? Вытрымка?

Неаднойчы даводзілася нагадваць пра Валерыя Шушкевіча, адданасць якога Рускаму тэатру заслугоўвае лепшага. Князь Мышкін у дыпломным спектаклі быў зусім не студэнцкай работай. Яшчэ некалькі ўзлётаў — галоўная роля ў спектаклі У. Матросава паводле Дастаеўскага, роля ў спектаклі «Іграем Стрындберга» паводле Ф. Дзюранмата, роля ў «Гульцах» М. Гогаля (абедзве — на малой сцэне Рускага тэатра). Кожны раз — здзіўленне: куды глядзелі? Чаму ніяк не выкажацца гэты артыст?

У тых жа «Гульцах» Уладзімір Курган з першага маналогу прымусіў нас прыслухацца да кожнай інтанацыі, сачыць за кожным рухам: прываблівалі іронія і такт, тонкасць і дакладнасць выканання, поўнае разуменне і заглыбленасць у матэрыял п'есы. Акцёр з няпростай, але такой акрэсленай індывідуальнасцю. Але і сучасныя, і класічныя п'есы праходзяць міма...

**Калі на купалаўскай сцэне з'явіўся «малы Уладамірскі» — Аляксандр, мы прыглядаліся ўважліва, прыдзірліва, нават — падазрона: чым ён падобны да славутага дзеда і да бацькі? І — чым не падобны? Гэта ўжо доля такая — нашчадак вядомай тэатральнай сям'і, яму быццам наканавана прадоўжыць тэатральную дынастыю — але ці варты ён таго, ці «пацягне»?**

**Аднак нават самая шчырая адданасць тэатру не дае права выхаду на сцэну: тут што маеш у сабе — тое і прад'яўляеш. Першыя з'яўленні на сцэне пазначылі адоранасць пачаткоўца, але яшчэ больш — яго добрасумленнасць, працавітасць. Ён шчыраваў у масоўках, выпрабляючы да бляску аднаму яму вядомыя дэталі. У дручаных яму ролях (усё больш уводах) цягнуўся да пераўвасаблення, вострай формы... (Малыш у «Зацюканым апостале»: БТ запісала спектакль, і не так даўно мы маглі пераканацца, якая гэта моцная, вострая, яркая работа...) Але, прызнаюся, мяне літаральна ўразіў Рахім у «Плачы перапёлкі» — роля без слоў, якую рэжысёр спектакля В. Раеўскі беспамылкова дару-**



(Заканчэнне. Пачатак на стар. 8—9).

«Пасля ціхіх — маўчанне», —падумаў я. Вынес з дома сак і прыточваў яго да сядла.

Я ўжо скакаў ад іх проста туды, дзе ўзыходзіла сонца. І кожную хвіліну чакаў каманды ці стрэлаў у спіну. Але чуў толькі той самы няўтрымны й бадзёры маладзецкі рогат.

5.

Ад плябані яны рушылі ў вёску.

Салдаты выводзілі з хатаў заспаных людзей і паганялі іх на пляц каля касцёла. Некаторыя заходзілі ў хаты, выносілі нейкія рэчы, складалі на воз.

Нявопытны ў рэйдах, Саша хадзіў пабочным назіральнікам, слухаў размову начальніка з войтам. Войт казаў пра смерць тутэйшага пана. Начальнік быў моцна ўзбуджаны, і калі войт сказаў, што нічога не ведае пра завадатара, рэзка выцяў яго па твары. Войт упаў. А начальнік, не даючы яму падняцца, спытаў, куды падзелася ўся вясковая худоба. Войт адказаў, што тавар з раніцы пагналі на пашу. Гэта зусім вывела начальніка з раўнавагі, і ён стаў біць войта нагамі.

— Я те покажу выпас, март месяц, снег в поле лежит, я тя самого на выпас,— падгаворваў ён.

Гледзячы на начальніка, салдаты пачалі збіваць астатніх вясковых мужчын. Білі жорстка і моўчкі. Гукалі якога: «Эй, как тебя зовут?». Той адказваў. Пачыналі біць. Потым гукалі наступнага. І зноў б'юць. А ён зноў маўчыць.

Старых і малых не кранаді, хоць і яны адмовіліся казаць пра абоз. Ці сапраўды не ведалі, ці не разумелі пытанняў.

Агульны запал перадаўся Сашу, і ён крыкнуў у натоўп:

— Вскоре всех вас поведут в Сибирь. Но нам не нужны все. Нам нужны зачинщики.

Начальнік на тое ўсміхнуўся Сашу і ўсклікнуў:

— Правильно, юнкер. Знают, ...их мать, всё они тут знают. Только пугнуть — сейчас расскажут. Гоните-ка их, Саша, в хлев за плебанией, где уставщика отпустили. Сейчас расскажут. Только дымком постращаем!

Саша наблізіўся да натоўпу. Яму было трохі боязна, але ён зараз жа зразумеў, навошта білі мужчын: цяпер няма каго баяцца.

— Черта им в Сибирь! — крычаў тым часам начальнік.

Усё адбывалася вельмі хутка. Сяляне зайшлі ў хлеў. Салдаты зачынялі вароты. Начальнік паклікаў Сашу зайсці ў плябань.

Яны падняліся на ганак. Дзверы былі адчыненыя.

— Святой Андрей Баболя...— прысвіснуў начальнік, разглядаючы абразок на сцяне ў святліцы. — Вот тебе и католический ксендз!.. Вы, юнкер, возьмите Грязнова и Сопрыкина да постращайте этих дураков. Они, наверное, ничего не знают, но всё-таки... Не тянуть же их с собой.

Махам ён збіў са стала вялікі стос кніг і скіраваўся да дзвярэй, гаворачы:

— А я с остальными поеду, поищу в лесу этого библиотекаря... Чушь какая-то. Срамно гибнет.

Что б еще за деньги, за женщину... Да хоть бы за водку, черт возьми! А то же за ерунду. За наречие. Не понимаю...

Ужо на ганку ён дадаў:

— Когда закончите, идите за деревню, на дорогу. Будэм абрека стрелят! — І засмяяўся.

Заданне падалося Сашу і цьмяным, і занадта простым. Не было ў ім ані перастрэлкі, ані рукапашнай, пра якія ён думаў, выязджаючы ў рэйд. Аднае, што «постращать дымком»... Ці то начальнік пашкадаваў яго і таму не ўзяў з сабою, ці то пасмяяўся з яго, пакінуўшы пры гэтых... І супакойваў сябе Саша толькі тым, што атрымаў загад.

Ён прыйшоў да варотаў хлява і загадаў салда-

**чыў А. Уладамірскаму. У спектаклі ўзнікала жудаснае аблічча персаніфікаванага фашызму — усёдазволенасць, адмаўленне чалавечага... Але такія ролі, якія патрабавалі б вялікіх душэўных і творчых намаганняў, прымушалі б узняцца над сабою, — выпадаюць артысту надзвычай рэдка, а ў апошнія гады іх амаль няма...**

Тыя, хто названы, — відавочна адораныя людзі. І неаднойчы гэта пацвердзілі. Тэатр і не думае з імі развітвацца, але чаму ж не дае ім па-сапраўднаму працаваць? (Не ведаю, што страшней для грамадства — калі не скарыстоўваюцца механізмы, набытыя за валюту, ці калі не скарыстоўваюцца «духоўныя капіталы», у якія ўкладзена «душэўная валюта» настаўнікаў, што не шкадавалі ні часу, ні нерваў, ні натхнення?!). І хто так распарадзіўся?

ДАВЯЛОСЯ ва ўспамінах пра Паўла Антакольскага прачытаць: «Ён цягнуў нас (пачынаючых паэтаў. — **Л. Б.**), як санітар параненага на полі бою...» Спіс тых, каго ён упарта і палымяна «цягнуў», —квецень нашай паэзіі, некалькіх яе пакаленняў!.. Ці не мог ён, Антакольскі, аднойчы кінуць: талент, маўляў, сам заўсёды праб'ецца? **Не мог.** Яны не былі яму ні роднымі, ні землякамі, калі ён хадзіў за іх, званіў за іх, прасіў за іх, абураўся, грукаў кіем, крэсліў радкі вершаў, пісаў прадмовы, рэкамендаваў на паэтычных вечарах. Яны былі яму роднымі і землякамі з аднаго краю — краю Паэзіі.

Што ж «землякі» з краіны Тэатр такія абыякавыя да сваіх паплечнікаў: няўжо лёгка бачыць па-за сцэнай — згаслыя вочы, а ў час тваіго натхнення — сумны твар?! Ці ўжо няма на сцэне той вялікай радасці партнёрства, узаемнага разумення з паўслова, з першага ж позірку?

Новы час настае, новыя адносіны нараджаюцца — цяжка, няпроста, у супрацьборстве з апрыклым шматслоўем, з таннымі абяцанкамі. Але нараджаюцца. Новы час надыходзіць і ў тэатры вельмі няпроста. Ды нельга гаварыць са сцэны пра дабро і высакароднасць, не зважаючы на тое, што ў сваім доме — побач — нешчаслівыя людзі...

Віктар Астаф'еў неяк заначыў: «У таленавітага чалавека лёс быў, ёсць і будзе асобны». Асобны — значыцца, больш цяжкі, больш складаны за іншыя? Відаць, так. Можа, ужо досыць рабіць яго яшчэ больш складаным? Ноша таленту і без таго цяжкая. Удвая цяжэй — ноша незапатрабаванага таленту. І ад гэтага церпяць страты не адны толькі таленты.

**ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА**

# КОЛІШНІ ВІЛЕНСКІ— ЗБЕРАГЧЫ!

**У «ЛіМе» за 18 снежня 1987 г. быў змешчаны ліст Э. Ялугіна «Памяць, залітая бетонам». Аўтар справядліва звяртае ўвагу на недапушчальнасць зняважлівых адносін да гістарычнага мінулага, у выніку чаго яшчэ адзін з куткоў Мінска страціў сваю самабытнасць: брукаваная плошча пакрыта асфальтам. Цалкам згодзен з Э. Ялугіным, што гэты ўчынак прыкры і недарэчны. Пры гэтым зусім няважна, якімі намерамі кіраваліся адпаведныя службы гарвыканкома.**

**Аднак Э. Ялугін у сваім лісце дзе-нідзе адыходзіць ад агульнавядомых гістарычных фактаў.**

**Напрыклад, звязвае плошчу (ён называе яе «Плошчай Мяснікова») з мітынгам у кастрычніку 1905 г. і жудаснай расправай над мітынгуючымі мінчанамі, хоць, як сведчаць дакументы, гэта адбывалася на плошчы перад будынкам вакзала Лібава-Роменскай чыгункі (сучасная Прывакзальная плошча). У карысць сваёй версіі аўтар не прыводзіць доказаў, абмяжоўваючыся словамі «мяркую», «Нельга думаць (чаму?— В. К.), што стральба вялася ля будынка вакзала».**

**Па-другое, не мае рацыі Э. Ялугін і тады, калі заяўляе, што мінчане «сабраліся на мітынг пратэсту супраць ілжывага царскага маніфесту аб грамадзянскіх свабодах». Тут аўтар неправамерна «мадэрнізуе» ход гістарычных падзей, выдае жаданае за рэчаіснасць. У пракламацыі Мінскай групы РСДРП «К гражданам гор. Минска по поводу расстрела 18 октября 1905 г. в гор. Минске» адзначалася: «Утром Минск плакал от радости по поводу «конституции», вечером кровавыми слезами расплатился за свою радость». Вядома, што царскі маніфест 17 кастрычніка 1905 г. быў вырваны ў самадзяржаўя рэвалюцыйным рухам. Напачатку шырокія колы насельніцтва Расійскай імперыі былі падмануты маніфестам, а значная колькасць шчыра паверыла ў свабоды, абвешчаныя Мікалаем II. Працверажэнне адбылося вельмі хутка...**

**Па-трэцяе, аўтар недакладна карыстаецца гістарычнай храналогіяй. Ён вызначае час Курлоўскага расстрэлу 31 кастрычнікам. Але ў савецкай гістарычнай навуцы агульнапрынятым з'яўляецца выкарыстанне дат да лютага 1917 г. па старым стылі. Царскі маніфест быў абвешчаны 17 кастрычніка 1905 г., а расстрэл мінчан адбыўся на наступны дзень, гэта значыць, 18 кастрычніка. Сам Э. Ялугін ужывае дакладную дату, калі гаворыць, што 25 кастрычніка 1917 г. у Петраградзе перамагла пралетарская рэвалюцыя (у аваротным выпадку давялося б весці гаворку пра 7 лістапада). Недакладна вызначана дата Курлоўскага расстрэлу (31 кастрычніка) і на памятным знаку ў вестыбюлі станцыі метро «Плошча Леніна».**

**Па-чацвёртае, волю для палітзняволеных мінчане патрабавалі не ў канцылярыі астрога, а ў выконваючага абавязкі мінскага губернатара П. Курлова. Дзеля гэтага частка мітынгуючых накіравалася на Саборную плошчу (сучасная плошча Свабоды), дзе знаходзілася губернатарская рэзідэнцыя.**

**У сваім лісце Э. Ялугін вядзе гаворку аб «Плошчы Мяснікова». Але плошчы з такой назвай у Мінску няма. Не знойдзем гэтай назвы ў выданні «Минск. Энциклопедический справочник», іншых даведніках. Няма гэтай назвы і на дамах, якія стаяць на гэтай плошчы. Імя Мяснікова было прысвоена былой Нова-Маскоўскай вуліцы ў 1932 г. В. Жучкевіч — аўтар кнігі «Улицы помнят. История, события, люди в названиях улиц и площадей города-героя Минска» адзначаў, што гэта адбылося яшчэ ў 1926 г. Папрокі ў адрас Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры і Дзяржаўнага музея БССР, вядома, абгрунтаваны, але зусім незразумела адсутнасць прэтэнзій да Міністэрства культуры і адпаведнага аддзела Мінгарвыканкома. Менавіта гэтыя арганізацыі маюць рэальныя паўнамоцтвы ў справе аховы помнікаў.**



Такім быў будынак Мінскага чыгуначнага вакзала на пачатку XX стагоддзя.

**Заслугоўвае падтрымкі прапанова Э. Ялугіна, каб у Мінску з'явілася назва, звязаная з рэвалюцыяй 1905—1907 гг. Да Вялікай Айчыннай вайны ў нашым горадзе існавалі назвы «Плошча рэвалюцыі 1905 г.», «Плошча ахвяр рэвалюцыі 1905 г.», «Плошча Пуліхава», якія адносіліся да сучаснай Прывакзальнай плошчы. Тут жа яшчэ ў снежні 1925 г. быў пабудаваны помнік, прысвечаны памяці ахвяр Курлоўскага расстрэлу.**

**Зараз ідуць работы па рэканструкцыі чыгуначнага вакзала. Будынак вакзала павінен быць знесены і на яго месцы ўзведзены новы гмах. Гэтае рашэнне абгрунтоўваецца шэрагам доказаў, якія выглядаюць неабвержнымі. Аднак пры гэтым забываем, што сучасны будынак вакзала з'яўляецца помнікам гісторыі і культуры і павінен ахоўвацца законам. Мінск не можа пахваліцца багаццем помнікаў, таму знікненне яшчэ аднаго выклікае заканамерную трывогу. Ці не атрымаецца ў нас, як у вядомым афарызме Казьмы Пруткова: «Что имеем — не храним, потерявши — плачем».**

**А брук патрэбна аднавіць, і не толькі ў раёне вуліц Савецкай і Мяснікова, але і на плошчах Леніна, дзе ён схаваны пад асфальтам, і Кастрычніцкай, дзе брук быў да пачатку будаўніцтва метрапалітэна.**

**В. КАСМЫЛЁЎ,**
**выкладчык кафедры археалогіі, этнаграфіі і дапаможных гістарычных дысцыплін БДУ, член камісіі па перайменаванні вуліц пры Упраўленні культуры Мінгарвыканкома.**

**АД РЭДАКЦЫІ. Адно з пытанняў, якое закрануў у сваім допісе В. Касмылёў, у прыватнасці, верагоднасць знішчэння будынка мінскага чыгуначнага вакзала, хвалюе і іншых нашых чытачоў. Той факт, што будаўніцтва новага вакзала ідзе поўным ходам, вядома, радуе. Аднак захаванне старога будынка, які з'яўляецца гістарычным помнікам, павінна стаць клопатам і абавязкам гарадскіх улад, усёй грамадскасці сталіцы. «На маю думку, трэба не толькі не зносіць стары вакзал, а, наадварот. надаць яму першапачатковы выгляд», — піша нам рабочы А. Баркоўскі. І яго прапанова ў рэдакцыйнай пошце не адзіная.**

**Не так даўно на сустрэчы творчай інтэлігенцыі з кіраўніцтвам Беларускай чыгункі было пастаўлена канкрэтнае пытанне: «Чаму б не стварыць у старым будынку вакзала музей гісторыі Беларускай чыгункі?»**

**Пытанне гэтае застаецца адкрытым, і мы яго адрасуем гарадскім уладам, а таксама Рэспубліканскаму таварыству аховы помнікаў гісторыі і культуры.**

# «ДЗЯКУЕМ ЗА АЎКЦЫЁН...»

**Гэтыя шчырыя словы прадстаўнікі Беларускага фонду культуры і Саюза мастакоў рэспублікі чулі пасля заканчэння першага ў сталіцы Беларусі аўкцыёну маладых мастакоў ад рабочых і інжынераў, педагогаў і студэнтаў, ваеннаслужачых і хатніх гаспадынь. Усе яны прыйшлі ў Палац мастацтваў не толькі дзеля таго, каб адчуць непаўторную атмасферу аўкцыёну, асалоду сустрэчы з маладым мастацтвам, але, зразумела, набыць творы.**

**Вядома, далёка не ўсім з прысутных лёгка было не памыліцца ў вартасці работ, якія прадстаўляў са сцэны канферэнц-залы акцёр Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Яўген Нікіцін. Дапамагалі яму мастакі і мастацтвазнаўцы. Яны пазнаёмілі прысутных з творчай лабараторыяй калег, іх біяграфіямі, сакрэтамі майстэрства. Менавіта за гэта і выказваліся добрыя словы тымі, хто набыў творы. Усяго прададзена 37 з больш 100 прапанаваных.**

**Удалым лічыцца аўкцыён, на якім рэалізавана 20—25 працэнтаў з прадстаўленага. Аналагічная лічба мінскага аўкцыёну—каля 30 працэнтаў. Асноўную суму ад продажу карцін атрымаюць аўтары, а 10 працэнтаў яны пералічаць на рахунак нумар 702 Беларускага фонду культуры на правядзенне мерапрыемстваў, якія і ў далейшым будуць садзейнічаць паспяховай творчасці моладзі рэспублікі.**



**Дарэчы, гэта ўжо чацвёрты аўкцыён, які арганізуе Беларускі фонд культуры сумесна з Саюзам мастакоў БССР. Паспяхова прайшлі выстаўкі і продаж твораў двойчы ў Гомелі і ў Гродне.**

**В. КУДРАЎЦАВА.**

там адчыніць іх. Калі адчынілі, Саша ўзбуджана крычаў усярэдзіну:

— Что сбились? Жить надоело? Где ваш треклятый ксёндз?

Але ніхто не адказваў, дый пытанні прагучалі неяк няўпэўнена, што і зусім раззлавала Сашу.

— Грязнов,— крыкнуў ён салдату, які быў бліжэй, — запирай ворота. — Давай-ка их дымом!

Салдаты падпальвалі салому, якая сям-там звісала з-пад страхі, а Саша адышоўся ўбок і пазіраў, як з дыму прарываюцца першыя языкі полымя...

...Ужо праз хвіліну ён бегаў вакол хлява, гукаў салдатаў, Грязнова і Сапрыкіна, але ніхто не адказваў яму. Толькі пазней Саша сустрэў іх на шляху, разам з атрадам.

Зараз жа яму зусім не хацелася верыць, што яны ўцяклі. Аднаму Сашу рабілася вусцішна каля гэтага падпаленага хлява з людзьмі. Ён разумеў толькі, што дзеецца нешта зусім непатрэбнае, лішняе. І ўжо не было як спыніць гэты пажар ці хоць бы падысці да варотаў.

На ўсе грудзі гулкімі ўдарамі білася сэрца. Ён то ўздумваў нешта рабіць, то зараз жа раздумваў. І гэтак кідаўся ў бакі, пакуль не пачуў, што ў хляве завылі бабы і нехта спрабуе высадзіць вароты. Як-небудзь дапамагчы Саша ўжо не мог. Тады і найшла на яго цемра, і ўбачыў ён страшныя люцыпаравы катлы.

— Скоты! — закрычаў юнкер, не помнячы сябе і, выхапіўшы рэвальвер, стаў страляць у хлеў...

Ніхто ўжо не біўся там, усярэдзіне, а ён усё паліў і паліў. Спыніўся толькі тады, калі не пачуў жаночага енку, які прагарэў наскрозь.

Тады Сашу павяло і, званітаваўшы, ён у адчаі зноў стаў клікаць Гразнова і Сапрыкіна, ды, не пачуўшы адказу, кінуўся быў упрочкі. Аднак зноў вярнуўся і, не разумеючы, што робіць, ірвануў абвугленыя вароты хлява. Яны паваліліся, і Саша заскочыў быў усярэдзіну, але зараз жа выскачыў назад.

— Выходите, выходите же, — гукаў ён сарвабам голасам.

Але ніхто не йшоў. Хлеў роўна і ціха догараў...

Увесь вымурзаны ў сажу, ён быў падобны да лесавіка, калі выбраўся за вёску, у лес. Яшчэ нейкі час ён то рыдаў і клікаў на дапамогу маці, то, звярэючы, адчайна мацярыўся. І самлеў.

Ачуўшыся, ён доўга пазіраў у неба, спрабаваў маліцца... Але неба было пустое, і не было ў ім бога.

А пасля, ідучы праз лес пакручастым шляхам, ён пачуваўся зусім адсутным. І не адразу заўважыў чалавека, які бадзёра шыбаваў насустрач. Гэта быў дробны сярэдніх гадоў мужчына, усмешлівы, з яснымі вачыма.

— Скажи, батюшка,— звярнуўся ён да Сашы, — далеко ли здесь селение Любиша?

— Здесь, отец,— паказаў Саша рукой.

— Спаси бог, друг любезный,— сказаў чалавек.— А я, значит, новый здешний священник. Был псаломщик в Сызрани, а теперь, значит, поп. Иду, так сказать, осматривать нивы своя.

— Но там никого нет,— млява прамовіў Саша.— Кому служить?..

— Будут,— усміхнуўся поп.— Переселенцы, батюшка, будут.

І яны разышліся.

Дзень прамінуў поўдзень. Лес расступаўся ў бакі, і дарога выводзіла Сашу ў поле.

Ён стомлена апусціўся на ўзбочыну, на шырокі пень.

Яшчэ з год таму тут стаялі густыя прысады. Здалёк, нават ранняй вясною, у разлапістых дрэвах цяжка было адрозніць чалавека. Таму прысады спілавалі і аж пад самы далягляд абапал шляху віднеліся гэткія самыя круглыя плешкі пнёў. Вось і ўсё. А што было потым?

Саша сядзеў на ўзбочыне і пазіраў, як канае дзень.

Насупраць, на рудаватым палетку, марнела ў бязветрыве голае дрэва. За дрэвам цягнулася стужка Каргоцкага лесу. Над лесам вісела ружовае сонца. Не свяціла. Не грэла...

# ДА ЧЫТАЧА—ШЛЯХАМ ПРАЎДЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 4—5).**

нага ў ім і вакол яго не адбывалася...

Мне здаецца, цяпер у нашай літаратуры, у тым ліку і ў маладой, ідзе своеасаблівае назапашванне сіл, падрыхтоўка рэзерваў для таго, каб неўзабаве яна змагла запоўніць пэўны разрыў, што адбыўся паміж нашай выдатнай так званай ваеннай прозай і прозай надзённай, прозай, якая заглыбіцца па-сапраўднаму ў нашы сённяшнія горкія і вельмі не лёгкія праблемы.

**Загадчык рэдакцыі выдавецтва «Советский писатель» Арнольд ТАМ сказаў:**

— Доўгія гады мы жылі досыць спакойна, не надта зважаючы на тое, што так званы сярэдні ўзровень літаратуры падчас аказваўся проста шэрым. Сёння так працаваць ужо нельга. Вось мы прыкінулі план на 1990 год і ўбачылі, што ён шмат у чым не задавальняе, творы, якія былі ў пашане ў нас учора, сёння ўжо друкаваць не выпадае. Тут гучалі імёны Мікуліча, Гарэцкага. Мне думаецца, яны павінны як мага хутчэй прыйсці да рускага чытача. Гэта і будзе адным з напрамкаў нашай работы сёлета. Гэта тычыцца і ўсіх іншых лепшых твораў, пра якія тут ішла гаворка. Мы не павінны жыць на падножным корме, не павінны чакаць, пакуль кніга выйдзе ў рэспубліцы, і толькі тады займацца яе перакладам на рускую мову. Трэба нам працаваць з вамі так, каб твор у трэцім экземпляры трапляў і да нас. Тым самым мы істотна скароцім той прамежак, які пакуль што існуе паміж прыходам кнігі да беларускага і да ўсесаюзнага чытача. І яшчэ. Вось ужо год-другі вы гаворыце пра вострыя праблемы, якія існуюць у рэспубліцы, — нацыянальнага, экалагічнага характару, скажам. Чаму б не зрабіць нам сумесна, — пісьменнікам і выдаўцам, — адну-дзве праблемныя, публіцыстычныя кнігі, у якіх разгляд вашых праблем быў бы ў духу часу?

**З выступлення маскоўскага крытыка Сяргея КОШАЧКІНА:**

— Ёсць нейкі гук, нейкія нюансы, нейкія інтанацыі, якія ўласцівы толькі беларускім пісьменнікам, беларускай літаратуры. Гэта нешта тое няўлоўнае, па чым я заўсёды беспамылкова, не гледзячы на экран, пазнаю ў праграме «Время» беларускага карэспандэнта. Добра маючы сувязь з Беларуссю, з беларускай літаратурай, з многімі яе творцамі, чытаючы іх кнігі, я прыйшоў да высновы, што ёсць уласна беларуская літаратура і літаратура на беларускай мове. Беларуская літаратура — гэта тая, якая нясе ў сабе, у сваіх глыбінях непадманнае адчуванне адметнасці вашага народа. Трэба, каб гэта не страчвалася і ў перакладзе. На жаль, цяпер, чытаючы некаторыя зборнікі беларускіх паэтаў на рускай мове, я неяк не ўлоўліваю гэтай беларускай акрасы. Не ведаю, чым гэта вытлумачыць, аднак жа... Вось у мяне ў руках кніжка Н. Тулупавай, першая яе кніжка, выдадзеная сёлета ў «Советском писателе». Паасобныя вершы на рускую мову пераклала С. Яўсеева. Яна таксама жыве ў Беларусі. Але, тым не менш, некаторыя творы знаходзяцца быццам на адлегласці, калі можна так сказаць, ад беларускай інтанацыі. Напрыклад, верш «Кадрыля». Не магу пазбавіцца ад уражання, што гэта нешта ад Твардоўскага, ад ягонай карціны скокаў з «Краіны Мураўіі». А мне, рускаму чалавеку, хацелася б прачытаць твор беларускага паэта, а не беларускі варыянт нейкага рускага твора.

**З выступлення маскоўскага крытыка Уладзіміра КАЗАРАВА:**

— У аповесці «Яго батальён» В. Быкаў дае адказ на пытанне, што рабіць, калі ты не можаш рабіць таго, што павінен? Адказ такі: рабіць, што можаш. Як ні дзіўна, гэта мае дачыненне да пісьменнікаў, што пішуць пра дзень сённяшні. Сітуацыя апошнім часам, вядома, змянілася, сёння ўжо многае можна сказаць, тым не менш пытанне канчаткова не знята з парадку дня. Паглядзім, як гэтая сітуацыя адбіваецца на паэзіі і прозе. Паэзія ў параўнанні з прозай знаходзіцца крыху ў лепшым становішчы. Для таго, каб адбыўся ўзлёт паэзіі, дастаткова якой-небудзь стрыжнявой, духаўтваральнай ідэі. У беларускай паэзіі яна, здаецца, ёсць. Гэта ідэя нацыянальнай самасвядомасці. Гэта вельмі ўдзячная і высакародная ідэя ў тым сэнсе, што яна дае духоўны стрыжань любому паэту, і ўсё далейшае залежыць ад яго імкнення да дасканаласці, ад майстэрства і г. д. І таму беларуская паэзія сёння ірванулася ўперад, у вас сёння шмат цікавых маладых паэтаў, і сама ваша паэзія вельмі цікавая з'ява, на мой погляд, нават больш цікавая, чым паэзія руская. Што датычыцца прозы, дык тут сітуацыя іншая. Калі ўважліва азірнуць беларускую прозу, ад вядомых пісьменнікаў да маладых, дык убачыш адну і тую ж карціну. Адчуванне такое, быццам усе (ці большасць) празаікі кіруюцца прынцыпам: пра гэта пісаць не будзем, бо гэта ўсё адно не надрукуюць. А пісаць жа ёсць пра што! Узяць хоць бы тое, што адбываецца на Палессі ці з беларускаю моваю. Гэта ж чыстыя тэмы для прозы!

**З выступлення Таісы БОНДАР:**

— Мы гаварылі аб тым, што было ўчора і пазаўчора, і мала гаварылі аб тым, якая літаратура сёння, і амаль нічога пра тое, якая яна будзе заўтра. Не буду гаварыць пра сваё пакаленне. Кажу пра тых маладых, якія сёння ўваходзяць у літаратуру. Крытыка пра іх або зусім не гаворыць, а калі гаворыць, дык вышуквае такое, да чаго можна прыдрацца, маўляў, як гэта можна параўнаць тралейбус з акварыумам! Маладых часцей дакараюць, папракаюць, часам б'юць, а разабрацца, хто яны такія і з чым прыйшлі, не надта хочуць. А ў іх жа няма самага галоўнага — выхаду ў друк, у прэсу. Тут гаварылі пра нашы часопісы і нашы тыражы, пра тое, што друкуецца ў гэтых часопісах. Класікі займаюць плошчу не толькі ў тоўстых з іх. У нашым тонкім часопісе (я працую намеснікам рэдактара часопіса «Беларусь») мы таксама давалі п'есу І. Шамякіна ў трох нумарах, начыста выцесніўшы ўсю прозу.

Ёсць праблемы і з выпускам нашых кніг у Маскве, з публікацыяй нашых твораў у цэнтральнай перыёдыцы. Кніжкі нашы сяды-тады ў Маскве выдаюцца. Але што значыць кніжка без часопіснай публікацыі? Яна вельмі часта губляецца ў моры кніг, асабліва, калі не была заўважана крытыкай. Кніга прыйшла і пайшла. Вядомасць, увага да пісьменніка прыцягваецца часопіснай публікацыяй. Аднак жа ў цэнтральных часопісах нас друкуюць вельмі мала.

І яшчэ пра адно. Мы шмат гаварылі тут пра нашы нацыянальныя праблемы. Гэта невыпадкова. Максім Танк у сваіх «Лістках календара» некалі так сказаў пра Хлебнікава: гэта мог дазволіць сабе паэт, над якім ніколі не вісела пагроза знікнення яго мовы. Над намі ж практычна заўсёды вісела такая пагроза. І калі нас часам папракаюць за апісальнасць, за злоўжыванне славесным вязьмом, дык хацелася б, каб таварышы тыя нас зразумелі. Мы пастаўлены ў такія ўмовы, што ледзь не свядома ідзём на гэта, прагнучы зберагчы тое ці іншае слова, выраз ад нябыту. Вазьміце нашу выдатную паэтэсу Дануту Бічэль-Загнетаву. Яе пісьмо надзвычай маляўнічае, мо аж занадта. Але ж я разумею, яна хоча зберагчы, захаваць назву кожнай травінкі, кожнай краскі і ўнесці гэтыя смачныя, народныя назвы-скарбы ў вершы. Чалавеку рускаму, магчыма, зразумець гэта цяжка, а нам усё гэта вельмі і вельмі зразумела...

**З выступлення ўкраінскага паэта і перакладчыка Паўло ГІРНЫКА:**

— Верш П. Панчанкі «Развітанне», пра які тут не раз гаварылі ўжо, нарадзіўся не проста так. Бываюць такія сітуацыі, калі чалавек, як кажуць, не можа больш трываць і крычыць ад болю. Такія сітуацыі бываюць і ў жыцці народаў, нацый: калі гінуць народныя асновы, калі знікае мова, калі да зямлі пачынаюць адносіцца толькі як да нейкага сродку вытворчасці. Вось на такім зломе і нараджаецца нешта невыпадковае па чалавечаму болю, па вышыні духу. І таму верш Пімена Емяльянавіча, на мой погляд, — гэта адзін з тых выпадкаў, калі паэт не канстатуе факт (да чаго нас прывучылі), а робіць прадбачанне, і гэта самае галоўнае ў літаратуры, якая павінна прадбачыць будучыню, глядзець наперад хоць на дзень-два. Хай гэтага ніколі не здарыцца, але думаць пра гэта — трэба.

Літаральна два словы пра канкурэнцыю моў і літаратур, пра што тут таксама гаварылася. Чуліся заклікі пісаць на роднай мове лепш, і тады нас будуць чытаць, маўляў. Такая пастаноўка пытання прынамсі несур'ёзная. Што за канкурэнцыя літаратур? Што за канкурэнцыя моў? Кожны народ павінен весці сваю нацыянальную літаратуру. Але сваё нацыянальнае аблічча яна будзе мець толькі тады, калі будзе падтрымка, грунт, на якім усё гэта можа вырасці. Калі гэтага грунту няма, дык палівайце вы сухое дрэва ці не палівайце — пладоў не дачакаецеся.

І апошняе. Працытую словы нашага вядомага празаіка Рамана Іванычука, якія тычацца перабудовы ў літаратуры. Ён сказаў: «Лепшая перабудова для слабога і сярэдняга пісьменніка — гэта перастаць пісаць».

**З выступлення Вячаслава РАГОЙШЫ:**

— Калі гаварыць аб рабоце беларускіх перакладчыкаў, дык можна ўжо сім-тым і пахваліцца. Мы пачынаем выпускаць стотомную серыю «Скарбы сусветнай літаратуры»: ужо ў наступным годзе выйдуць том трагедый і санетаў Шэкспіра, «Доктар Фаўстус» Томаса Мана і том вершаў і паэм Тараса Шаўчэнкі. Можам пахваліцца і тым, што летась упершыню правялі міжнародны семінар перакладчыкаў нашай літаратуры. Можам пахваліцца і пэўнай работай з моладдзю. Скажам, пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі створаны клуб маладых перакладчыкаў. Больш таго, можам пахваліцца, што Беларусь — адна з самых перакладаючых рэспублік нашага Саюза. У нас працэнт перакладных кніг сярод кніг на нацыянальнай мове складае 26 працэнтаў. Для параўнання скажу, што на Украіне такіх кніг 11 працэнтаў, а ў РСФСР — толькі 3 працэнты. Ды справа ў тым, з якога боку паглядзець на гэтыя працэнты. Усяго ў Беларусі выдаецца прыблізна тры з паловай тысячы кніг тыражом каля 55 мільёнаў экземпляраў. Але толькі каля 400 кніг — на беларускай мове, гэта значыць 11,5 працэнта. Тыраж гэтых беларускіх кніг — усяго каля 4,5 мільёна экземпляраў. Значыць, на кожнага беларуса прыпадае ўсяго па паўкнігі! Беларусь — адзіная рэспубліка, якая па колькасці кніг на нацыянальнай мове засталася на ўзроўні 1940 года. І гэта вынік выдавецкай палітыкі. Раней выдавецтвам прадпісвалася дзесьці чвэрць кніг выдаваць на беларускай мове. Цяпер жа некаторыя нашы выдавецтвы толькі намінальна называюцца беларускімі: яны выпускаюць адну-дзве, а то і ніводнай кнігі на беларускай мове. Дык вось і паглядзім, ці многа мы выпускаем перакладных кніг. Вядома, шмат, калі браць кнігі на беларускай мове. Але і вельмі мала, калі мець на ўвазе мастацкія кнігі. Патрабаваць нашым перакладчыкам выдаваць больш перакладных кніг — значыць, ушчамляць арыгінальную нацыянальную кнігу. Цяпер, калі выдавецтвы пераходзяць на гасразлік, колькасць перакладных кніг, як і арыгінальных на беларускай мове, знізіцца яшчэ больш, бо яны ў пераважнай большасці — нерэнтабельныя. Таму і прасіў бы Савет па беларускай літаратуры звярнуць на гэта ўвагу і нейкім чынам паўплываць адсюль, з Масквы, на выпраўленне гэтага становішча, бо кіраўнічыя таварышы з нашага Дзяржкамвыда не надта схільныя мяняць такую заганную выдавецкую практыку і палітыку.

**З выступлення Алеся ЖУКА:**

— Часам я лаўлю сябе на думцы, што гэта ўжо становіцца ці не модай — паплакаца аб сваёй мове, трагічнай сітуацыі з культурай і г. д. Ёсць, мне здаецца, людзі, якія выходзяць на трыбуну, каб паплакаць, нічога не робячы. Сёй-той ратуе за мову, але, выбачайце, як напісаны ягоны твор? Як ён зроблены? На якім прафесійным узроўні? Шкада, што мы не чуем часта крытычнай ацэнкі гэтага ні ў сябе дома, ні тут, у Маскве, маскоўскія таварышы шкадуюць нас. А, можа, не трэба? А, можа, рэальна трэба паглядзець, якую шкоду наносіць і нашай літаратуры, і нашай мове вось гэтая так званая сярэдняя літаратура? Сераднякоў, на жаль, нямала. І ім выгадна, каб нашы гаворкі вяліся па глабальных праблемах, але толькі не аб іх прафесійным узроўні. І таму нам варта запланаваць і правесці спецыяльнае пасяджэнне і непрадузята, шчыра пагаварыць пра набалелыя пытанні нашага прафесійнага майстэрства...

Хачу адказаць на два пытанні, якія закранаріся тут таварышамі. Сяргей Пятровіч Кошачкін гаварыў аб тым, што з рэпертуару знікаюць п'есы Андрэя Ягоравіча Макаёнка. Што ж, прычыны доўга шукаць не даводзіцца. Па-першае, у нас толькі тры тэатры, якія працуюць на беларускай мове (да слова, тэатраў у рэспубліцы менш, чым было да вайны). Па-другое, у тэатрах зараз праходзіць эксперымент, і там пачалі ставіць тое, што дае прыбытак, нацыянальная ж п'еса там ужо не надта і патрэбна. Сітуацыя, трэба шчыра сказаць, тупіковая: як можа развівацца нацыянальная драматургія пры адсутнасці нацыянальнага тэатра?

Другое пытанне тычыцца Буйніцкага поля. Яўгеній Захаравіч Вараб'ёў папракаў тут кіраўніцтва СП рэспублікі. Наўрад ці заслужылі мы такіх папрокаў. Мы ў свой час разам пра гэта добра пагаварылі, унеслі прапановы, але — раз'ехаліся і забылі. Як чыноўнікі, як бюракраты: забылі, паклалі пад сукно. І таму ці трэба так мусіраваць цяпер тое, што не зрабілі? Мне здаецца, мы ўжо забыліся на самога Канстанціна Міхайлавіча Сіманава, на яго памяць, напаверх выйшлі амбіцыі, таму трэба спыніць гэтую сварку і паважаць саміх сябе і добрую памяць пісьменніка.

**З заключным словам выступіў Якаў ХЕЛЕМСКІ. Ён сказаў:**

— Спадзяюся, што размова, якая адбылася за гэтым сталом, нямала дала і нам, і нашым беларускім гасцям. Прынамсі, мы шмат пра што ўзаемна даведаліся, шмат што для сябе ўяснілі.

Хачу падтрымаць тых, што гаварылі тут пра Убарэвіча, Гамарніка, Цішку Гартнага. Усё гэта людзі, якія стварылі беларускую дзяржаву, шмат зрабілі для яе станаўлення і развіцця, і іх памяць трэба ўвекавечыць. І добра, што паявіліся ў вас першыя работы пра іх, і дзякуй аўтарам і часопісам за публікацыі. Думаю, што мы ў даўгу і перад Кузьмой Чорным, і зноў жа добра, што паявяцца яго дзённікі, і павінна быць ажыццёўлена сапраўднае рускае выданне яго твораў. Мы ў даўгу перад памяццю У. Караткевіча. Намечана чатырохтомнае выданне яго прозы. Але мы забыліся пра Караткевіча-паэта. Ягоны зборнік «Быў. Ёсць. Буду», які выйшаў у Мінску, неабходна выдаць на рускай мове. Тое ж самае хачу сказаць і пра М. Стральцова. Выйшла ў Маскве пасмяротна яго першая кніжка вершаў. Але я думаю, што ў «Худлите» павінен выйсці і добры том ягонай прозы. І яшчэ. У 1962 годзе, калі выйшаў трохтомнік беларускай паэзіі, А. Твардоўскі папрасіў мяне напісаць пра яго артыкул. Я напісаў. Называўся артыкул «Чатыры стагоддзі беларускай паэзіі». Канчаўся ён так: адкрываецца трохтомнік С. Полацкім, а завяршаецца юнай студэнткай Гродзенскага педінстытута Данутай Бічэль-Загнетавай. Гэта было так даўно. Мяркую, што надышоў час выдаць новую анталогію, трохтомную ці чатырохтомную, аднавіць у ёй імёны, якія былі выкраслены з беларускай паэзіі, уключыць туды Гусоўскага. Наогул у нас знізілася культура анталогій, аднатомнікаў. Думаецца, што перад намі стаіць і гэта задача. Скажам, чаму не выдаць анталогію сучаснай беларускай паэзіі? Анталогію, якая канчалася б сённяшнімі вашымі маладымі, мы ж ведаем, што прыйшлі ў вашу паэзію многія харошыя паэты, — вось бы і даць сапраўдную карціну яе сённяшняга стану. Яшчэ на адну думку наштурхнула мяне факсімільнае выданне «Матчынага дару» А. Гаруна. А, можа, прыйшоў час выдаць такім чынам і газету «Наша Ніва», як выдадзены пушкінскі «Современник», як выдадзена «Северная лира»? Там жа, на старонках «Нашай Нівы», вытокі ўсёй беларускай публіцыстыкі, пра якую мы сёння тут гаварылі.

Пра беларускую мову. Канечне ж, яна існуе і будзе існаваць. Мяне абрадавала паведамленне В. Рагойшы пра стотомнік. Аднак жа трэба падбаць пра тыраж. Бо памятаю, як У. Дубоўка дарыў мне томік сваіх перакладаў з Шэкспіра. Гэта выдатныя пераклады, яны бліжэй да Шэкспіра, чым Маршаковы. А ён мне дарыў кніжку са слязамі на вачах, гаварыў, што не хацелі выдаваць яе наогул і выдалі ўрэшце тыражом у тысячу экземпляраў.

Адным словам, работы ў нас непачаты край. Усё, што тут было сказана, трэба сур'ёзна абдумаць, асэнсаваць, усе канструктыўныя заўвагі і прапановы ўлічыць, уключыць у нашы рабочыя планы. І адно з чарговых нашых пасяджэнняў мы сапраўды варта, як гаварыў А. Жук, прысвяціць адной-двум кнігам, каб абмеркаваць іх глыбока, усебакова, на першы план вылучыўшы менавіта пытанні майстэрства, прафесійнага ўзроўню пісьменніцкай работы...

**Вось такая гаворка адбылася на пасяджэнні Савета па беларускай літаратуры СП СССР. Не ўсё са сказанага на ім можна прыняць, не з усім можна пагадзіцца — як паспеў заўважыць чытач, былі думкі спрэчныя, ацэнкі катэгарычныя, меркаванні прадузятыя. Аднак жа прагучала і нямала слушнага, разумнага, талковага. Дабратворна адбілася на гаворцы, мне падалося, атмасфера часу — яна была, не ў прыклад ранейшым гаворкам, шчырай, адкрытай, даверлівай, да ўсяго ж — прынцыповай, патрабавальнай і ў добрай ступені крытычнай. Агульнымі намаганнямі ўсіх, хто прыняў удзел у дыскусіі, былі зроблены пільныя літаратурныя агледзіны, кінуты ўважлівы і заклапочаны погляд на беларускую літаратуру 1987 года. І, думаецца, з ім, гэтым калектыўным поглядам, будзе цікава і карысна пазнаёміцца лімаўскаму чытачу.**

**Мікола ГІЛЬ,**
**спецыяльны карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва».**

ПАЭЗІЯ

Рыгор БАРАДУЛІН

# З НОВАЙ КНІГІ



●

Хораша пад ушацкую завіруху
грэцца ўтрапёным Парыжам.

Апячы далоні і вусны каштанамі
з гарачай жмені жароўні.
Ядзэнне гэтае нагадвае
пастухоўскі ласунак з вогнішча ўвосень,
калі да чарнаты падгарыць бульбіна
і даўкай белай мякаці
нестае шэрых дажджынак солі.

Апячы ўпотайкі пажадныя думкі,
нібыта не бачачы сексакарыятыд,
што голалыгія і голарукія
падпіраюць вуглы дамоў і пад'езды,
а на адпаведным месцы
з чырвонага замяняльніка скуры
гарэць лісцінкі фігавыя,
як карты званковай масці,
з выклікам пытаючыся,
чый козыр старэйшы.

Апячы душу сустрэчай
з маладымі сваімі гадамі,
п'ючы з цяпер да канца парыжанкай
гарбату на бульвары Сен-Жэрмен
у кавярні, якую любіў Віктар Някрасаў
і дзе ён казаў пра свае захапленне
асобаю Васіля Быкава.

Апёкшыся радасцю,
можна доўга дзьмухаць пасля
на смутак паўсядзённасці,
слухаючы рухавую завіруху.

## Білет з парыжскага метро

Білет з парыжскага метро,
як лістападаўскі жаўталіст,
магічна праводзіць па хітрых ходах
абжытага, абгараджанінага падзем'я,
дзе рэкламы запрашаюць у Нью-Йорк за 2000 франкаў,
раюць, які крэм і як расціраць,
каб цела было сексуальна прывабнае,
прапануюць ласкавую мяккую мэблю,
у якой самі сябе рэкламуюць
паставы адпаведна-пажадныя.
Грае лацінаамерыканец, як наш асмуглелы Лявончык
на такіх жа, амаль як у нашага дока, цымбалах,
толькі магчыма крыху зычнейшых,
зрэдку ападаюць у самотны капялюш
скамечаныя лісцінкі франкаў
ці бязважкая луска драбязы.
І на зямлі і пад зямлёю
доля гусьлярская прыблізна аднолькавая.
Лістапад на парыжскіх вуліцах
ідзе ў сакавітазялёнай вятроўцы,
лістапад у падзем'і
хваравіта бляднее ў электрадзённым святле.
І прыходзяць сюды пушкінскія радкі:
А на далёкай поўначы—ў Парыжы—
Магчыма, неба хмарамі акрыта,
Халодны дождж ідзе і вецер стыгне...
Наогул, усё адносна адноснае —
і праўдзівасць і мана, і прыязнасць і варажэча,
і далеч і блізкасць, і спёка і сцюжа.
Гэта ў злядзелым падзем'і шахтаў
Авідзій трыццаць сёмага года ўздыхаў:
А недзе там, на поўдні, Магадан,
Амаль недасягальная планета...
Як далёка на поўначы Лауры з «Каменнага госця»
уяўляўся слатой ахінутым ласкавапагодны Парыж,
як далёка на поўнач у часіны сіберныя
прасунутыя былі сталінскія здраўніцы,
калі Магадан апынуўся на поўдні?!

Білет з парыжскага метро,
як лістападаўскі жаўталіст,
ляціць падзем'ямі прыпамінаў,
следам за ім—
мае думкі восеньскія.

## Сустрэча

У Нью-Йорку, у Вашынгтоне
сустракаўся я з Віцебскам маладосці мамы маёй
з вулачкамі-крывулачкамі,
з анёламі сумнымі і вясёлымі,
са скрыпкамі—паветранымі скрынкамі,
з казой-дзеразой,
што бегла цераз масток
і ўхапіла кляновы лісток.
І тут, у цэнтры Пампіду,
а дзедаўшчына Жоржа Пампіду, дарэчы,
у Заслаўі, у гасподзе нашай Рагнеды,
сустракаюся зноў з Віцебскам.
Бо Шагал родны свой горад
у прадчуванні наступных навал
спяшаўся захаваць на палотнах,
хоць і палотны, таксама як гарады,
знікаюць ад загадаў барбараў і ад войнаў,
але з вачэй у вочы, з душы ў душу
перадаюцца вывявы палотнаў
і такім чынам жывуць у Сусветах памяці.
Калі адразу па вызваленні
у Віцебску пасля 1100 дзён і начэй няволі
выжыла 118 чалавек,
хоць нехта з іх ды помніў
шагалаўскі местачкаваты Віцебск,
які некаторым апантаным русаманам
закарцела, ці, як у нас кажуць,
загарэлася бяроста ў задзе,
называць толькі рускім горадам.
І калі гасцінныя французскія сябры
перакладалі мае такія-сякія вершы,
у біяграфічнай кароткай даведцы значылася:
нарадзіўся ў рэгіёне Віцебска, у Беларусі,
і тут жа ўдакладнялася ў дужках:
радзіма Шагала.
Для французаў Беларусь перагукваецца з Шагалам.
І паўсюль на пашпартах палотнаў маэстра
пазначаны старадаўнябеларускі горад,
які даў яго свету мастацтва—Віцебск.
Славуты «Падвойны партрэт»—нібы касманаўт,
Шагал лунае з Бэлай, а ўнізе Віцебск.
Дзвіна цячэ, як Палата ў «Слове пра паход Ігаравы».
Сорак Трэці год. Бежанцы, як і ў часіны Батыя,
жанчына распрыгоненымі рыжымі валасамі
палае, як газнічка, ў апраметнай,
высвечваючы шляхі пакут, жахаў, ахвяр.
Шагал—сам бежанец з зямлі на нябёсы,
Віцебск насіў у сабе, каб ніхто не выкраў,
Віцебск з усёй яго люднасцю, жыўнасцю.
Так у свой час Сузін
з хлеўчука ў Смілавічах
у парыжскі салон загнаў свінню ружовую.
Кожны мастак багаты сваёй радзімай.

Я сустракаўся з шагалаўскім Віцебскам
у Еўропе і за акіянам, але ні разу
не сустрэўся з Маркам Шагалам
у нашым Віцебску.
Чакаю.
Dum spiro, spero.

## Традыцыі

Мой самы ўлюбёны настаўнік
выкладчык беларускае мовы і літаратуры
Фадзей Францавіч Багдановіч
да самазабыцця любіў свайго цёзку прозвішчам,
Максіма Багдановіча лічыў ён першым паэтам,
хоць пад той час афіцыйна-праграмна лічылі не так.
Настаўнік нас папракаў, што граматыку ведаем кепска,
а вось Максім Багдановіч замежныя мовы ведаў,
французскую, напрыклад, як сваю беларускую.
Дык вось,
Фадзей (мы за вочы яго называлі Чарадзей) Францавіч
пры выпадку і без такога не ўпускаў падкрэсліць,
што мае адносіны непасрэдна да Францыі,
бо ён жа Францавіч,
і яшчэ абавязкова даводзіў
вясёлае сцверджанне Лёсіка,
што мова наша такая ж, як і французская,
(пра гэтае ж яшчэ казаў і Мацей Бурачок),
у якасці гарэзнага доваду Лёсік прыводзіў:
Алёна лён трэ,
Іван цяля пасе...
Фадзей Францавіч у дадатак незразумела тлумачыў,
што выраз, каб цябе пранцы, дужа пашыраны
у паўсядзённай, бытавой лексіцы,
мае таксама французскі корань...
Сёння хаджу па вулках Парыжа,
спрабую грасіраваць рэ,
паўтараю сабе пакрысе:
Алёна лён трэ,
Іван цяля пасе...
А на самой справе лён Алёна не трэ, бо лён—
ён прадмет старадаўняга экспарту,
і старанна вывозіцца ў Еўропу, ў Японію,
і потым да нас ідзе гатовым прадуктам,
і Алёна не ў лёне, а ў нейлоне, балоніі
шукае, каб прачытаць на нашыўцы 100% cotton.
Іван пры ўсёй джынсовай красе
цялят не пасе, дубеюць на сцюдзёнай расе,
пасвіць няма каго індывідуальна,
Іван з камсамольскай рашучасцю пазбаўлены
усіх комплексаў у тым ліку, у першую чаргу
дробнаўласніцкага, аднаасобніцкага,
бо за гэтыя перажыткі дзяды і бацькі
цялят адпаслі там, дзе Макар іх не пасвіў.
Цяляткі цяпер масава, як на культурным
загадзя арганізаваным мерапрыемстве,
адкормліваюцца на комплексах
не мурагом зялёным,
а кормам, адпаведным нормам, гармонным.
А потым масава, як заплыў на Янцзы,
набраўшы вагу і трацячы яе, вытрымаўшы чаргу,
рухаюцца на бойню.
Дый мову беларускую
па сцверджанню Лёсіка блізкую да французскай,
як цялят са шкоды,
выганяюць са школы,
з высокіх дамоў,
з устаноў
зноў і зноў,
выганяюць дамоў.
А дом, дамоўе, хата, дзе?
Ні прытулкаў, ні дамоў прыстарэлых
для мовы яшчэ не прадугледзелі
у перспектыўных планах.

І ні тут, у Парыжы, ні ў стольным Мінску
нічога сказаць не магу—
цяляты язык ад'елі.
Алёна лён трэ,
Іван цяля пасе
у граматыцы Лёсіка...

## Французскі смех

Анры ДЭЛЮІ

Усё, ад парфумы французскай
Да французскіх уцех,
Вядома бадай што любой бабулі,
А што такое французскі смех,
Не скажаце, бо не чулі.

Здаецца, з вар'яцкага дому
Збег
Шалёны і прэцца па чыстым полі;
Здаецца, падраўся з бомамі
Мех
І гукі бомаў усіх на волі;

Здаецца, з паразімелых
Стрэх
Снег
Шухнуў і нерастуе доле;
Здаецца, разбіўся келіх
Калег
І свеціцца ў настрою ў прыполе;

Парыў і надрыў,
Разбег і спех,
Спектакль,
Дзе ўсе вясёлыя ролі.
Вы не чулі,
Як раскашуецца французскі смех,
Значыць, не чулі смеху ніколі!

## Салют Парыжу

Гуляка і філосаф закаханы,
Транжыр і жмот, гультай і працаўнік
На экспарт звык збываць свае заганы,
Ажно запыхкаўся вякоў цягнік.
Глядзіць з нябёс анёл закалыханы
На твой, напханы Сенаю сяннік.
Грудзей красунь спякотныя барханы
Турбуеш, каб нашчадны пал не знік.

Чырвона-жоўты шарф, дзе фара ў фару,
На Елісейскіх выпасах да твару
Табе, пастух вачэй і душ, Парыж.
Прыняць хацеў бы, як заслугу, кару.
Тваю насмешку ўбачыць марна мару
Я, ўшацкай аралле азяблы глыж.

●

Парыжам трэба загрузіцца
Ды так,
Каб потым нязмушана
Ён усплываў са дна
Свядомасці,
Імгненнасці,
Замілавання,
Як поўня затанулая
Маладзіком,
Як мілосць загубленая
Успамінам,
Як забыццё маладое
Старым жыццём,
Паўтараючыся,
Паўтараючыся,
Паўтараючыся
Да выразнасці.

## МУЗАМ НА ПАЦЕХУ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Даю бой ананімам. Не па адзіночках вяду агонь, па з'яве. Гэта ўражвае. І зручна: нікога не кранаю, ніхто не крыўдзіцца. Паліць і ў невідзімак небяспечна, незнарок трапіш, а тут ніхто, за руку не злоўлены, нехта. І не забіў, і трафеі лічыш. Адно бянтэжыць: ананімак на стральца як не было, так і няма.

●

Ці дзіва, што сустракаецца так многа курцоў-жанчын? Жанчын у нас, як вядома, даўно ўжо больш за мужчын.

●

Дэвіз: для чалавека, у імя чалавека, але не цаной чалавека, не за кошт чалавека!

●

Радавод: запомніце, мы — не вы, аснова ў нас здаровая, рыба гніе з галавы, а мы, дзякуй богу, безгаловыя.

●

Віраванне жыцця ў спектаклі перадаваў шум за сцэнай. Вялікі шум азначаў вялікае жыццё.

●

— Ад мяне святло, — казала цемра, — я зоркі запальваю, а золак тушыць.

●

Што адрознівае разумнага ад дурня? Разумны бачыць разумнейшых за сябе, а дурны — не.

●

— Апладысменты, апладысменты, — шаптаў суфлёр глядзельнай зале, але ніхто яго не слухаў.

●

Эра кентаўраў скончылася, калі чалавек, нахвостваючы каня, зразумеў, што паганяе сам сябе.

Марцін КОЎЗКІ.

# НАЙСУЧАСНЫ

*Маналог аднаго паэта*

Я так люблю,
Я так хачу,
Я так магу...
Эй, хто там?
На «Волзе» —
Па зямлі імчу,
А думкі —
Самалётам...

Я з гулкай музаю сваёй
Паспеў усюды прымількацца.
Аўтаінспектары са мной
Баяцца сустракацца.

На ўсіх
Мой поспех
Жах наводзіць:
Сябры —
І тыя абыходзяць!

Мікола ЧАРНЯЎСКІ.

Элін ПЯЛІН

# ЯК УЗНІКЛІ ВЕРАБЕЙКІ

Ну што, Боба, ты зноў просіш казку? Добра, магу сёе-тое расказаць. Але ж казкі я табе ўсе пераказаў. Зноў расказваць пра дзеда і бабу, ведаю, ты не захочаш слухаць. Яна табе ўжо абрыдла. Пра ваўка і авечку таксама ведаеш. Ведаеш і пра Іванчу і Марыйку. Пра дрэннага хлопчыка? Але ж цяпер няма дрэнных хлопчыкаў. Наша педагогіка цяпер дасягнула сваіх вяршынь і не дазваляе, каб былі дрэнныя дзеці. Тысячы школ, рассаднікаў дабра, укамплектаваных адмысловымі педагогамі, гэтак пamaйстэрску ператвараюць дрэнных дзяцей у добрых, што іх проста не пазнаць. Прызнаюся шчыра, Боба, што я ўжо баюся расказваць дзецям казкі. Гэта небяспечна. Хто ведае, якую трасцу нажыву на сваю галаву, калі ўзлуецца які-небудзь вучоны педагог. Бо яны маўчаць, сапуць, паглядваюць скоса і думаюць. І кожны год прыдумваюць што-небудзь новае. Яны яшчэ не сказалі мне, якія казкі можна расказваць *малым*, але пастаянна папярэджваюць, пра што не трэба расказваць.

Даволі ўжо, крычаць тыя педагогі, дурыць галовы дзецям рознымі фантазіямі пра дзеда і бабу, пра Іванчу і Марыйку. Дайце ім што-небудзь рэальнае, падрыхтуйце дзіця да жыцця, навучыце яго глядзець на рэчы проста. Заўтрашняга грамадзяніна трэба рыхтаваць сёння, а не ўводзіць у зман, каб ён быў сляпы перад рэчаіснасцю, з галавою, затуманенай рознымі фантастычнымі выдумкамі... Дык калі я наслухаюся такіх глыбокіх разваг, Боба, мяне проста страх бярэ. І ад страху забываю ўсе казкі, толькі маўчу і вінавата ўсміхаюся. А то другія з педагогаў сваё крычаць: навошта, каб дзеці ведалі пра розных цароў і царыц, іх праслаўляць у жыцці адышла ўжо. Што гэта за рабалепныя пажы і вернападданніцкія народныя масы? У казках павінны быць свабодныя грамадзяне! І ўсе мы, хто любіў расказваць дзецям казкі, перад такімі ўзвышанымі словамі проста дранцвелі, Боба.

І пачалі мы з вялікім хваляваннем чакаць ад новых педагогаў новых казак. Чакалі, чакалі, ды так і не дачакаліся. Што аказалася, Боба? Аказалася, што ўсё тое — проста педагагічнае мудрагельства.

Вось бачыш, якія жахлівыя рэчы здараюцца ў рэальным свеце, дзіцятка маё. І калі, скажам, пачну я табе пра ўсё гэта расказваць, пэўна ж табе не спадабаецца, а магчыма, ты нават слухаць не захочаш.

Вось чаму, Боба, я раскажу табе такое, што абавязкова спадабаецца. Я раскажу табе пра верабейкаў. Як узніклі верабейкі. Тыя самыя маленькія шэранькія птушачкі, што ашываюцца ў нашым гародчыку, што не ўмеюць спяваць, а толькі ціха і жаласна чырыкаюць, а ўзімку не маюць чым паласавацца і толькі дзяўбуць крошкі, што ты ім падкідваеш. Дык гэтыя маленькія птушачкі ў свой час былі дзецьмі, як і ты...

А да таго яшчэ жыў-быў адзін пісьменнік. Ты ведаеш, што такое пісьменнік, Боба? Не ведаеш? Гэта людзі, якія пішуць кнігі. І кожны з іх думае, што ягоныя кніжкі — самыя лепшыя. Пісьменнікі — людзі вельмі своеасаблівыя. Яны надта любяць гаварыць пра сябе, а яшчэ больш, каб іншыя гаварылі пра іх, ды не проста гаварылі, а гаварылі з захапленнем. Таму яны і сябруюць толькі з ліслівіўцамі. Чалавек, які любіць казаць праўду ў вочы, не можа быць у іх за сябра. Няхай ён толькі паспрабуе сказаць праўду, дык ліха не абярэцца, таму што, Боба, яны злапамятлівыя і помслівыя. І калі яны пішуць свае кніжкі, Боба, то ўпэўнены, што робяць для ўсяго чалавецтва самую неабходную, самую ўзвышаную, самую карысную і самую вялікую справу.

У кожнага з іх, Боба, свая спецыяльнасць. Калі тлумачыць табе падрабязна, атрымаецца надта навукова. Але каб ты ведаў, самая адмысловая спецыяльнасць — гэта «дзіцячы пісьменнік». Як ты разумееш, дзіцячыя пісьменнікі думаюць толькі пра дзяцей і пішуць хто вершыкі, хто казачкі, і ўсё салодзенькаю, мілаю, ліслівaю моваю, толькі для маленькіх дзетак, дзеля іх дабра, для насалоды і спажывы іх маленькіх душак.

Дык вось, Боба, адзін такі пісьменнік стаў прычынай, што дзеці, якія чыталі яго вершыкі, ператварыліся ў вераб'ёў.

Сядзеў той пісьменнік цэлымі днямі за сталом і пісаў казкі і вершыкі. Пад акном таго пісьменніка цэлы дзень стаяў выдавец, падхопліваў кожны спісаны аркуш і выдаваў кніжкі.

Пісьменнік усё сядзеў і ўсё пісаў. Ён не ведаў спачыну. Быў ён вельмі працавіты. Пісаць пераставаў, калі ўжо зусім стамляўся. Але нават калі не пісаў, ён *не ўставаў з-за стала*. Адпачываючы, ён маляваў у альбоме праект помніка, які яму павінны паставіць удзячныя нашчадкі.

Пісаў ён, Боба, вершыкі і казачкі, міленькія і салодзенькія. А каб былі яны яшчэ больш міленькімі і салодзенькімі, ужываў усе ласкавенькія і салодзенькія слоўцы. Каб дзеці лепш разумелі назоўнікі, ён усе назоўнікі рабіў памяншальна-ласкавымі: кветка рабілася кветачкай, леў — лёвікам, вока — вочкам, цялё — цяляткам, агурок — агурочкам, бусел — буслікам, мама — мамулькай, тата — татулькам, пісьменнік — пісьменнічкам. Памяншаў ён усе словы, і яны, салодзенькія, рабіліся міленькімі і прыемненькімі.

Ён пісаў, а дзеці ўсёй краіны чыталі, вучылі на памяць, бесперастанку дзень і ноч паўтаралі яго салодкія вершыкі і казачкі, чыталі, смяяліся, плакалі, пішчалі, скакалі... І ад таго, што так многа чыталі памяншальна-ласкавага, замест таго, каб расці, дзеці пачалі памяншацца. Яны памяншаліся, памяншаліся, пакуль не ператварыліся ў маленькіх верабейчыкаў і пачалі чырыкаць і шчабятаць вершыкамі.

Вось так узніклі верабейкі, Боба.

— А што з тым пісьменнікам, тата?

— Пісьменнік, які пісаў памяншальна - ласкавыя словы, таксама пачаў памяншацца, Боба. *Ён памяншаўся і памяншаўся, але як не быў дзіцем, то не мог стаць вераб'ём, а стаў сарокаю.*

З балгарскай пераклаў Уладзімір АНІСКОВІЧ.




Мал. М. ШЫШЛОВА.



Мал. А. ПАПОВА.



з 4 па 10 красавіка

4 красавіка, 19.00

**ФЕСТЫВАЛЬ МАСТАЦТВАЎ «МІНСКАЯ ВЯСНА»**

Канцэрт камернага аркестра. Трансляцыя з Белдзяржфілармоніі. У праграме *творы беларускіх кампазітараў.*

4 красавіка, 20.40

**«ЗАЧЫТАЙЦЕ МАЕ ПІСЬМО...»**

Агляд крытычнай пошты за тыдзень.

5 красавіка, 19.00

**ФЕСТЫВАЛЬ МАСТАЦТВАЎ «МІНСКАЯ ВЯСНА»**

Канцэрт сімфанічнай музыкі. Трансляцыя з Белдзяржфілармоніі. Прагучаць творы Соніна, Ісмаілава, Цяпко, Б. Чайкоўскага, Санадзе ў выкананні Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра БССР.

6 красавіка, 19.25

**«ПАЭЗІІ РАДОЙ ЧАРОЎНЫ...»**

Вершы У. Караткевіча чытае Г. Кухальская.

6 красавіка, 21.50

**У ТЭАТРАХ РЭСПУБЛІКІ**

Ж. Както. «Чалавечы голас». Спектакль Тэатра-студыі кінаакцёра.

7 красавіка, 21.50

**«ЛІРА»**

Мастацка-публіцыстычная праграма.

Адбудзецца сустрэча з галоўным рэжысёрам Рускага тэатра БССР імя М. Горкага В. Маслюком.

7 красавіка, 23.30

**«НАКЦЮРН»**

Выступае струнны квартэт «Рэтра».

8 красавіка, 20.15

**ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС «БУГ».**

Спачатку вас чакае падарожжа па старажытнаму Брэсту, потым знаёмства з вершамі А. Бабіцкага з Піншчыны, карцінамі маладога мастака з Брэста Л. Рацько. На заканчэнне выступленне Пінскага народнага ансамбля песні і танца «Палескія зоры».

9 красавіка, 23.20

**«ВЯЧЭРНІ КАНЦЭРТ»**

Старадаўнія рамансы і вальсы іграе камерна-інструментальны ансамбль Беларускага тэлебачання і радыё.

10 красавіка, 14.30

**«МЕТРАНОМ»**

Дыскусійная зала фестывалю мастацтваў «Мінская вясна». Прамы эфір.

10 красавіка, 16.15

**«ЭКРАН: ПРАБЛЕМЫ, ГЕРОІ»**

Народны артыст РСФСР П. Вельямінаў.

10 красавіка, 23.00

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**

Інфармацыйна-музычная праграма.

## У «КНІГАРНІ ПІСЬМЕННІКА»

Ад гарэлкі розум мелкі. Зборнік. Мн., «Мастацкая літаратура», 1988.— 1 р. 30 к.

А. АСІПЕНКА. Святыя грэшнікі. Раман, аповесць. Мн., «Мастацкая літаратура», 1988. — 2 р. 30 к.

А. ПЕТРАШКЕВІЧ. Соль. П'есы. Мн., «Мастацкая літаратура», 1988. — 2 р.

М. ТКАЧОЎ. Дыханне агню. Раман, апавяданні. Мн., «Мастацкая літаратура», 1988. — 2 р.

КОЛА-ДЗЁН-88. *Беларускі літаратурна-мастацкі каляндар.* Мн., «Мастацкая літаратура», 1988. — 1 р. 10 к.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. *На белорусском языке.*

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 01128 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.